E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 20 (25) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІСТАПАД 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Пазіцыя

### Лепшая сістэма адукацыі

У ходзе семінара кіруючых работнікаў, які прайшоў у Мінску, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў недапушчальнасць «размывання» сістэмы адукацыі за кошт з'яўлення вялікай колькасці прыватных ВНУ. «Мы спынілі гэты працэс адміністрацыйным чынам і выйгралі ад гэтага», – адзначыў ён. На думку кіраўніка дзяржавы, прыватныя ВНУ не даюць якаснай адукацыі, больш таго – разбураюць добры ўзровень дзяржаўных ВНУ. Цяпер у Беларусі існуюць 13 прыватных ВНУ. Ім прад'яўляюцца вельмі жорсткія патрабаванні. Дзякуючы гэтаму з'явілася магчымасць выдаваць іх выпускнікам дыпломы дзяржаўнага ўзору, сказаў прэзідэнт. Ён заявіў: «Гэтыя трынаццаць – моцныя, добрыя. Мы іх паставілі ўпоравень, падтрымліваем і ўжо не называем недзяржаўнымі». Паводле словаў А.Лукашэнкі, трэба развіваць тую «адукацыю, якую мы атрымалі ў савецкія часы, калі ў нас была самая магутная і лепшая сістэма адукацыі ў свеце». У Беларусі мы яе захавалі некранутай, толькі прыстасавалі да сучасных умоў, сказаў кіраўнік дзяржавы. Варта адзначыць, што ўсе 13 прыватных ВНУ – рускамоўныя.



# Помнік паэтцы



На пляцы Зэльвенскай царквы паўстаў высілкамі простых людзей помнік паэтэсе Ларысе Геніюш. Пытанне аб стварэнні помніка Ларысе Геніюш было паднятае беларускай грамадскасцю яшчэ на пачатку 90-х гадоў. Праект быў зацверджаны ўрадам, але хутка мінула постсавецкая адліга, і, як раней, творы Ларысы Геніюш былі выключаныя са школьных праграмаў, а пра ідэю помніка «забыліся». Старшыня мінскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба «Спадчына» Анатоль Белы звярнуўся да мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і атрымаў дазвол і блаславенне паставіць помнік Ларысе Геніюш на пляцы Зэльвенскай Траецкай царквы. Як вядома, першыя свае творы паэтка падпісвала псеўданімам Чайка. Так з грэцкай мовы перакладаецца імя Ларыса. Менавіта такой узнёслай і свабоднай яна засталася ў памяці мясцовых жыхароў, тых, хто ведалі Ларысу Геніюш.

Яна нарадзілася 9 жніўня 1910 года ў былым маёнтку Жлабаўцы, каля вёскі Волпа Валкавыскага раёна. Пасля сканчэння Валкавыскай гімназіі Ларыса Геніюш пераехала разам з мужам у Прагу. Праз тры гады пасля вайны НКУС арыштаваў у Чэхаславакіі паэтку і яе мужа. Яны былі асуджаныя да 25 гадоў зняволення. Пакаранне ёй давялося адбываць у лагерах Інта і Абезь (Комі АССР) і ў Мардоўскай АССР. У 1956 годзе Геніюш была вызваленая, аднак да гэтага часу не прызнаная ўладамі як несправядліва асуджаная. У 1967 годзе выдадзены дзве кнігі лірычных вершаў паэткі і кніга вершаў для дзетак. Пасля смерці Ларысы Геніюш пабачыла свет кніга ўспамінаў «Споведзь».

Працяг тэмы на стар. 4, 8, 9

Краіна

# Калекцыя ад Льва Талбузіна



Выстава « Новая калекцыя», што прапісалася ў Галерэі мастацтваў Беларускага саюза мастакоў (пр. Ф.Скарыны, 12), знаёміць з творчасцю знанага мастака Льва Талбузіна. Аўтар шырока прадставіў свае геаметрычныя фантазіі, пластычныя эцюды, керамічныя аб'екты, што ў сваёй большасці ёсць элементамі інтэр'ернага дызайну, рэчы, сабраныя падчас экспедыцый.

Як заўважыў мастацтвазнаўца Пётр Васілеўскі, усяму, што паказаў мастак у «Новай калекцыі», вельмі ўласціва яснасць пластычнай мовы. Творы Талбузіна – гэта трапныя словы, пасродкам якіх аўтар дзеліцца сваёй думкай з наведвальнікам. А ў ёй пра непарыўнасць духоўнай сувязі айчыннай і сусветнай мастацкай спадчыны, пра перапляценне традыцыі з сучаснай ідэяй. Дадзеная выстава – адна з тых, дзе створана выдатная магчымасць рэфлексаваць і фантазіраваць: суправаджаючай таблічкі не мае ні адзін твор. Але гэта не задума аўтара. « Гэта задума кіраўніцтва галерэі», – патлумачыла супрацоўніца Аляксандра Дабрадзеева. З пазначанай прычыны твор, які аўтар назваў «Рэчышча», я назвала «Сустрэча», а яшчэ адзін цікаўны наведвальнік – «Спакой». Як бачна, ёсць свой плюс.

# «Круглая лічба»

Мастакі–рэстаўратары суполкі «Басталія» не адмаўляюць таго, што яны вялікія міфатворцы. Наадварот, з гонарам пагаджаюцца і любому, хто зайшоў на іх выставу «Круглая лічба», што па адрасе Скарыны, 24, даказваюць гэта. Цягам восеньскіх Дзядоў (з 2 па 28 лістапада) разам з Міколам Залатухай, які праводзіць экскурсіі, кожны мае магчымасць узгадаць круглых юбіляраў – дзядоў у мастацтве і іх творы.

Сапраўды, чым не круглы юбіляр Пабла Пікаса? З дня нараджэння яму 121 год. А вось яго «Авеньёнскім дзеўкам», з якіх, можна сказаць, і пачалося сучаснае мастацтва, ужо 96. «Спячай Венеры» Джарджоне – 494; 525 гадоў «Песні пра Зубра» Гусоўскага; Сапегу – 404; Брэжневу – 96 (і гэта пры тым, што ўсё, прадстаўленае на выставе, мае прамыя адносіны да мастацтва!)

«Круглая лічба» – гэта адзін з прыкладаў, як праз прызму сённяшняга дня можна пабачыць і адчуць багатую спадчыну продкаў. Адзін з наведвальнікаў запісаў у кнізе водгукаў: «Магчымасць «прыемна перавярнуць мазгі» і задумацца над тым, у якой прасторы я жыву».

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# «Абудзіць Беларусь»

«Абудзіць Беларусь» – пад такім загалоўкам *«Gazeta Wyborcza»* надрукавала развагі шматгадовага дырэктара польскай службы Радыё Свабодная Эўропа Яна Новака-Езяранскага. Ён выказвае свае думкі пра тое, што ягоная краіна магла б зрабіць, каб паспрыяць узмацненьню дзяржаўнасьці Беларусі. Са зьместам артыкулу знаёміць Радыё Свабода.

*«Ніхто ня будзе спрачацца з выказваньнем, што добрыя дачыненьні з суседзямі ёсьць гарантыяй бясьпекі любой краіны. Першы раз у гісторыі Эўропы Польшчы нічога не пагражае з боку Нямеччыны, як і з боку іншых краінаў Заходняй Эўропы. Дачыненьні Варшавы з Усходам, аднак, не такія добрыя. Варункам бясьпекі ўсходняй мяжы Польшчы ёсьць узмацненьне незалежнасьці і дзяржаўнасьці Беларусі і Ўкраіны. Пакуль гэтага ня будзе, расейцы ніколі канчаткова не пагодзяцца на свае цяперашнія межы»*, – піша Ян Новак-Езяранскі.

На ягоную думку, «небясьпечная» залежнасьць беларускай і ўкраінскай гаспадарак ад расейскай сыравіны можа прывесьці да сытуацыі, калі Масква будзе дыктаваць Менску і Кіеву палітычныя варункі, а гэта азначае канец сувэрэнітэту Ўкраіны ды Беларусі.

*«Тады Польшча ізноў стане тварам у твар з імпэрыяй, якая па сваёй натуры імкнецца да пашырэньня свайго ўплыву на слабейшых суседзяў»*, – адзначае Новак-Езяранскі.

Таму палітыка ў дачыненьні да Беларусі і Ўкраіны мусіць мець для Польшчы стратэгічнае значэньне. Паводле Езяранскага, перадусім, трэба зьвярнуць увагу менавіта на Беларусь, чыя дзяржаўнасьць знаходзіцца пад большай пагрозай. На ягоную думку, страта Беларусяй незалежнасьці вызначыла б і лёс Украіны.

Ян Новак-Езяранскі піша, што недастатковая зацікаўленасьць сытуацыяй у Беларусі характэрная ня толькі для Польшчы, але і для Заходняй Эўропы і ЗША.

Між тым, галоўнымі праблемамі Беларусі, на думку аўтара артыкулу, ёсьць русыфікацыя, вынішчэньне беларускай самасьвядомасьці і адсутнасьць у апазыцыйных сілаў магчымасьцяў данесьці свае погляды да ўласнага народу.

*«Польшча не дастаткова моцная краіна, каб дзейнічаць у такой сытуацыі самастойна. Мы можам рабіць эфэктыўныя захады толькі ў супрацоўніцтве з Эўразьвязам і ЗША, каб абудзіць там інтарэс да беларусіх праблемаў. Прычым супрацоўніцтва ў гэтай справе з Вашынгтонам падаецца мне больш лёгкім. Польшча павінна запрапанаваць ЗША канкрэтную праграму супрацоўніцтва зь Беларусяй, як калісьці гэта было зроблена ў справе Польшчы ды іншых усходне-эўрапэйскіх краінаў. Асноўныя элемэнты гэтай праграмы - гэта свабоднае слова, якое распаўсюджвалася б праз радыё, і масавая перапраўка ў Беларусь друкаваных выданьняў»*, – піша Езяранскі.

На ягоную думку, дзеля таго, каб прыкладам праграмы беларускай службы радыё «Свабода» было лепей чуваць у Беларусі, рэтрансьлятары трэба паставіць у Польшчы і Літве, а таксама стварыць на польскай тэрыторыі прынамсі яшчэ адну незалежную радыёстанцыю для беларусаў.

На думку Езяранскага, палякі таксама павінны як мага больш запрашаць маладых беларускіх лідэраў вучыцца на вопыце польскіх рэформаў.

*«Ужо цяпер трэба вучыць на Захадзе будучых творцаў свабоднай гаспадаркі вызваленай краіны»*, – піша ў атрыкуле «Абудзіць Беларусь» былы шматгадовы дырэктар польскай службы Радыё Свабодная Эўропа Ян Новак-Езяранскі.

**Радыё Свабода**

# У Польшчы прэзентавалі «Дзеяслоў»

У мястэчку Гайнаўка адбыўся VIII беларуска-польскі літаратурны семінар «Бязмежжа–2003». У рамках семінара адбылася прэзентацыя творчасці беластоцкага празаіка Міраслава Грыкі (Багдан Дудко) і кнігі Віктара Стахвюка «Багровы цень» - беларуская літаратура на падляскім дыялекце вёскі Трасьцянка. Таксама гарадзенскі паэт Юрась Гумянюк прэзентаваў сваю кнігу «Вуліца тыгровых архідэяў». У літаратурных чытаннях прынялі ўдзел аўтары з Беларусі і Польшчы: Ежы Плютовіч, Паліна Качаткова, Міраслава Лукша, Надзея Артымовіч, Алег Кабзар, гучалі песні на словы Наталлі Артымовіч і Міхася Андрасюка.

Мерапрыемства было арганізавана «Цэнтрам адукацыі «Польшча–Беларусь», які знаходзіцца ў Беластоку. Актыўны ўдзел у арганізацыі семінара прыняў Яўген Вапа, вядомы не толькі як грамадскі дзеяч, але і як выдатны беларускі паэт.

У рамках «Бязмежжа–2003» упершыню за мяжой прэзентаваўся беларускі літаратурны часопіс «Дзеяслоў». «У наладжванні літаратурных кантактаў з Беларуссю вельмі зацікаўлены польскі бок. Ужо колькі год запар у правядзенні семінара дапамагае Міністэрства культуры Польшчы. Паэзія і выданні, якія прэзентаваліся ў рамках семінара, выклікалі вялікую цікавасць», – кажа адна з аўтарак часопіса, удзельніца семінара Паліна Качаткова.

Рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч падараваў тры камплекты выдання мясцовай бібліятэцы, беларускаму ліцэю і рэдакцыі беларускай газеты «Ніва».

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# На працу ў лік установленай броні

У Беларусі ў гэтым годзе павінны быць працаўладкаваны ў лік установленай броні больш за 20 тысяч грамадзян, якія не здольны на аднолькавых умовах канкурыраваць на рынку працы. Сярод іх – 1.135 інвалідаў, 5.827 маладых людзей ва ўзросце да 18 гадоў і 2.473 асобы, якія вызваляюцца з установаў зняволення. Гэта прадугледжана дзяржаўнай праграмай занятасці насельніцтва на 2003 год, адзначыў дырэктар дэпартамента па занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Мікалай Коханаў на прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы, прысвечанай праблемам занятасці грамадзян Беларусі, якія маюць дадатковыя гарантыі на працаўладкаванне. Паводле слоў М.Коханава, у Беларусі ажыццяўляюцца дзейсныя меры па абучэнні неканкурэнтаздольных на рынку працы беспрацоўных і павышэнні іх кваліфікацыі. Гэта істотна павышае шанец знайсці рабочае месца. За студзень–верасень гэтага года за кошт сродкаў фонду на прафнавучанне накіраваны 3,7 тысячы непаўналетніх беспрацоўных, 317 былых асуджаных, 293 інваліды.

# Каму Беларусь прадае зброю

Асноўнымі пакупнікамі беларускай ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў з'яўляюцца Іран, Кот-д'Івуар, Судан і Алжыр. Найбольшым попытам карыстаюцца танкі , баявыя машыны пяхоты, артылерыйскія сістэмы. Пра гэта паведаміў журналістам начальнік аддзела экспартнага кантролю ўпраўлення міжнароднай бяспекі беларускага МЗС Васіль Паўлаў. Ён прадставіў падрыхтаваную знешнепалітычным ведамствам Нацыяльную справаздачу Рэспублікі Беларусь аб палітыцы экспартнага кантролю, экспарту ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі ў 2002–2003 гадах. У Міністэрстве замежных справаў падкрэсліваюць, што Беларусь стала першай сярод краінаў СНД рыхтаваць і прадстаўляць грамадскасці падобныя справаздачы.

# Новабуд на Пляцы Волі



У верасні, калі адзначалі дзень Мінска, была здадзена, так бы мовіць, першая чарга Мінскай ратушы. Плануецца, што дзверы для наведвальнікаў яна адчыніць у ліпені 2004 года.

Узнаўленнем мінскай ратушы займаецца ААТ «Стары Менск». Мы ўсе памятаем, што ратушу пабудавалі вельмі хутка – за год. Але папярэдняя праца – вывучэнне айчынных і замежных архіваў, археалагічныя раскопкі і падрыхтоўка праекта рэстаўрацыйных работ доўжылася больш за 10 год.

У адным з інтэрв'ю дырэктар ААТ «Стары Менск» спадар Шыкунец зазначыў, што пры будаўніцтве ратушы яго работнікам прыйшлося сутыкнуцца з вялікімі цяжкасцямі, якія былі абумоўлены суседствам з лініяй метрапалітэна.

Новая ратуша стаіць на тым жа месцы, што і ў 1562 годзе. Знешне яна выглядае як і яе разбураная папярэдніца. Але яна пабудавана па сучасных тэхналогіях і з сучасных матэрыялаў, таму гэта – чыстай вады навабуд. У XVI стагоддзі яна сімвалізавала высокі статус горада, якому было нададзена магдэбургскае права, што яна будзе сімвалізаваць цяпер – невядома.

Плануецца, што на другім паверсе, дзе раней засядаў магістрат, будзе зала святочных прыёмаў Мінгарвыканкама. Залу ўпрыгожаць партрэты ганаровых жыхароў Мінска. На першым паверсе будуць размешчаны чатыры выставачныя залы музея гісторыі горада. Экспазіцыі трох залаў будуць прысвечаны гісторыі Мінска, а чацвёртай – планам перспектыўных забудоваў сталіцы. Будзе добраўпарадкаваны і сквер каля ратушы. Там размесцяцца скульптуры жыхароў Мінска розных гістарычных эпох. Ужо зараз у скверы збудавана шкляная піраміда. З цягам часу ў ёй можна будзе ўбачыць частку экспазіцыі з гістарычных залаў музея гісторыі Мінска.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

**«Новы час»**
**абвяшчае конкурс сярод чытачоў**
**«Беларусь у гістарычным працэсе»**

*Удзельнам конкурса трэба адказаць на наступныя пытанні:*

1. Якую падзею з беларускай гісторыі Вы лічыце значнай для нашай краіны
а) у даўнія часы, б) у навейшыя часы
2. Якую з вядомых Вам гістарычных асобаў Вы ўзялі б за ідэал ці параілі б узяць за ідэал вашым дзецям?
3. Якую мясціну на Беларусі Вы лічыце святой, вартай усенароднай павагі?
4. Ці ёсць у Вас любімы помнік даўніны (замак, палац, парк, возера і г.д.) у нашай краіне, куды хацелася б час ад часу прыязджаць?
5. Што на вашу думку варта рабіць, каб Беларусь не загінула ва ўмовах глабалізацыі Хто можа гэта рабіць – толькі улады ці кожны грамадзянін?

Пераможцаў чакаюць прызы: фотаапарат, C/D з папулярнай беларускай музыкай падарункавыя выданні, падліска на «Новы час» і інш.

Адказы на пытанні дасылайце на наш эл. адрас: nchas@tbm.org.by або паштовы: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, з паметай – «на конкурс» да 20 снежня 2003 г.

# Ад «идеологии государственности» – звычны прарасейскі водар

**Выйшла ў свет новая манаграфія «Идеология государственности и общественного развития Республики Беларусь.» Ёсць прадчуванне, што менавіта гэтая кніга будзе выконваць ролю падручніка па ідэалогіі для вышэйшых навучальных установаў. Гэты курс ужо зараз актыўна пачынае выкладацца ў многіх беларускіх ВНУ. Не варта дзівіцца і такой акалічнасці, што ідэалогія беларускай дзяржаўнасці выкладзена на рускай мове - чыя мова , таго і ідэалогія. Цяжка ўявіць, што немцы выдалі б падобную кнігу на ангельскай мове, хоць усе добра яе ведаюць. Але магчыма, што кніга выйдзе і ў перакладзе на першую дзяржаўную мову Беларусі - каб ахапіць усіх.**

**Кніга выдадзена ў рэдакцыйна-выдавецкім цэнтры Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ. Інфармацыі пра аўтараў (дзе выкладаюць, што даследуюць) у кнізе не пададзена. Вядомыя з тытульнай старонкі толькі іх імёны – Васілій Шынкароў і Ларыса Вартанава. Рэцэнзентамі манаграфіі выступілі доктар філасофскіх навук, прафесар П.Кікель, доктар сацыялагічных навук, кандыдат філасофскіх навук В.Міхееў, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Е.Матусевіч.**

**За фармулёкамі пра «системный анализ мировоззрения» і «идеологическое осмысление», якімі насычанае выданне, хаваюцца прапановы, праграмы і канкрэтныя механізмы ідэалагічнага забеспячэння ўсіх сфераў беларускага жыцця. Кніга складаецца з 13 раздзелаў і адрасаваная выкладчыкам і студэнтам, кіраўнікам і спецыялістам дзяржаўных органаў.**

**Паводле тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы, ідэалогія – гэта «сістэма поглядаў, ідэй, якія характарызуюць тое або іншае грамадства, клас, палітычную партыю». Некаторыя ідэі, якія, на думку аўтараў павучальнай манаграфіі, характарызуюць беларускае грамадства, мы прапануем увазе чытача ў выглядзе цытатаў з кнігі для папярэдняга знаёмства.**




**Стр. 12–13**. «Сложившаяся после распада СССР ситуация характеризуется не только серьезными экономическими потрясениями, но и заметной маргинализацией и люмпенизацией населения, ростом у значительной части людей частнособственнических настроений. Жажда наживы, нравственная ограниченность привели к нарушению пропорции между духовным и материальным. Отсутствует система идейно-политического воспитания населения. И это все реально уводит общество и государство от гражданского к догражданскому состоянию.

В этих условиях создается видимость деидеологизации общества, активно поддерживаемой многими политическими силами. Но это глубокое заблуждение. Безыдейность, выплывающая наружу, – это также своеобразная характеристика идеологического обеспечения общества, ситуация из которой определенные силы извлекают свою политическую выгоду».

**Стр. 18–19**. «Глубоко заблуждаются те, кто говорит, что на Западе нет идеологии, что западное общество не является идеологическим. Да, там нет идеологических центров, подобно бывшим у нас отделам пропаганды партийных комитетов. Отсутствие здесь единой государственной идеологии, подобной марксизму-ленинизму или маоизму, не говорит еще об отсутствии для этих целей огромной государственной идеологической машины, создающей и внедряющей в умы людей нужные государству идеи и учения, обеспечивающей и наращивающей их влияние в нужном для господствующих группировок русле ... Западная идеология тотальная, ее воздействию подвергаются все: от безработного бомжа до человека, занимающего самое высокое положение. Все они не замечают идеологии, а поэтому подчиняются ее влиянию непроизвольно, заинтересованно, с удовольствием».

**Стр. 22.** «Если говорить объективно, то известная часть нынешней творческой интеллигенции – это безгосударственники, в их натуре преобладает анархия. Мало среди них таких, которые смогли бы стать убежденными идеологами и пропагандистами. Они сегодня не станут и не способны активно бороться против негативных проявлений, неизбежных в условиях колоссальной ломки государственных устоев, переориентации в общественных ценностях и сознании. Многим из них кто-то должен на блюдечке с каемочкой преподнести совершенное общество, которому они потом будут писать дифирамбы, станут певцами и выразителями его идей.

Все это не позволяет творческим работникам, призванным «глаголом жечь сердца людей», диктовать народу страны высокие гражданские условия и идеи. В результате этого государственная власть в силу сложившихся обстоятельств вынуждена вместо них выполнять роль не только руководителя, но и духовного наставника».

**Стр. 44**. «Стоящие в конце 80-х – начале 90-х годов у кормила нашего государства люди слишком много молотили кувалдами и языками по тонкому механизму государственного управления, порой безуспешно отрабатывая забугорочный доллар, но в силу отсутствия навыков и профессионализма не понимая смысла и не зная последствий своих действий. Это урок, который нельзя забывать».

**Стр. 46.** «Особую строку в истории белорусского этноса составляет период вхождения белорусских земель в состав Российской Империи. Это было время становления и развития здесь, прежде всего, революционно-демократических настроений в духе тех, которые охватили и Россию. Главный объект противостояния - крепостное право и охраняющее его царское самодержавие. Заметим, что все это проходило на фоне естественного единения с русским народом. Ошибаются те, кто пытается дать трактовку восстанию под руководством Кастуся Калиновского как антирусскому. Больше всего Кастусь Калиновский желал того, что бы русские и белорусы жили в мире и не проливали «братской крови».

**Стр. 70.** «Общество не может и не должно жить по старым канонам и считать себя нормальным. Это важнейшее условие избавления его от шизофрении и недееспособности. Важно между существующими крайностями найти «золотую середину», ту норму, которая обеспечит прогресс и процветание государства.

Достичь таких целей не возможно, если: совместными усилиями государства и общественности не будет возрожден социальный идеализм; из сознания людей не будут изгнаны цинизм, апатия, моральная всеядность; процессу общественного развития не будет дан новый, чистый живительный поток, способный унести накопившиеся грязи и мусор».

**Стр. 121–122.** «История дает убедительные примеры, как следует работать с оппозицией. В свое время марксизм вступил в жизнь как теория оппозиционная. Но для развития капитализма он сыграл позитивную роль, так как вынудил его выйти из полудикого состояния, способствовал его укреплению и совершенствованию. Это наглядно и убедительно учит, как оппозиционные силы должны находить свою ячейку в обществе.

Отношение к оппозиции – проблема не новая, в то же время и не простая. Оппозиционные силы разрушают, мешают, но они же и помогают яснее увидеть проблемы, осознать их, найти пути выхода из сложных ситуаций. Оппозиция 90-х годов в Беларуси впервые показала, что существует разность взглядов, мнений и позиций в оценке как тактических, так и стратегических проблем и целей. Из оппозиции вырос и сформировался нынешний принципиально новый государственный аппарат.

Существенным недостатком нынешней белорусской оппозиции является то, что она свое оппозиционное положение превратила в профессию, дающую ей возможность зарабатывать на Западе деньги. Она не имеет в стране социальной базы, оторвана от целей и задач государства. Да и делать она ничего не умеет. Если говорить образно, она подобна дряхлому старику, который питает определенные цели по отношению к молодой женщине, заранее зная, что удовлетворить ее не сможет, да и дать ему ей нечего, кроме своих старческих болезней».

**Стр. 190–191**. «Истинная российско-белорусская интеграция возможна лишь тогда, когда Беларусь обеспечит реальную экономическую независимость от великой державы. Невозможно иметь здоровые отношения в рамках Союзного государства, если будет сохраняться нынешний менталитет Беларуси. ...

Процветающая Беларусь невозможна без России, но и Союзное государство невозможно без достаточно высокого уровня экономического развития входящих в него государств».

**Стр. 218.** «Государственная власть для большинства белорусов как бы внешняя, а не внутренняя потребность. Государство для них – это «они». Белорусы слабо еще воспринимают тезис, что государство – это «мы». Такие настроения особенно проявляются в период предвыборных кампаний.

...В то же время у белорусов отчетливо проявляется надежда на государственную власть, ожидание от нее защиты от неурядиц, конфликтов и несправедливости. Об этом свидетельствуют многочисленные письма и иные обращения граждан в различные государственные органы.

...Коллективизм – это, можно сказать, национальное, то, что в крови у белорусов. Это то, что следует сохранять и укреплять. Исключительная роль здесь принадлежит идеологии. В коллективе – учебном, трудовом, производственном – должен быть центр идеологической работы. Именно коллектив должен стать главным объектом идеологического, пропагандистского воздействия».

**Стр. 222–223**. «Душа белоруса не отравлена золотым тельцом. Он поэтому отрицательно воспринимает буржуазность. Отсюда в основном негативное отношение белорусов к процессам приватизации и излишнему обогащению отдельных личностей. Тем более если это обогащение сопряжено с обнищанием других людей. В нем органически заложено одобрение общества равных возможностей, стремление к нему. В его натуре нет власти буржуазных условностей, семейного мещанства, зацикленности на жестких жизненных нормативах. В то же время белорус редко бывает удовлетворен настоящим. Он, скорее, странник, искатель, мечтатель до прожектерства. Он гуманист, в то же время не способный повторить западный гуманизм, так как он шел дальше его. Гуманизм белоруса выше и чище. И это качество нельзя не учитывать.

Средний белорус чаще всего отождествляет себя с русским. В национальной стихии его есть российское бескорыстие и бесшабашность натуры. Не для него русофобия, прикрываемая необходимостью защиты белорусского языка и разглагольствованиямі о возможности потери суверенитета. ... В то же время свою белорускость наш гражданин никогда не будет выпячивать. Национализма гнушается, агрессивно его отвергает».

Адзінае, што хочацца тут нагадаць: рускі, які абараняе рускую мову, лічыцца патрыёт, а беларус, які не хоча бачыць сваю мову сярод памерлых, лічыцца нацыяналіст. Вось такі знаёмы фармат ідэалогіі дзяржаўнасці. А колькі людзей чакалі нечага новага. Наіўныя.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Яе любілі і будуць любіць

***Інтэрв'ю з аўтарам помніка Ларысе Геніюш скульптарам Міхасём Іньковым, ураджэнцам Зэльвы***

**- Шаноўны спадар Міхась, кажуць, што помнік чакаў на адкрыццё 10 гадоў. Як ён нараджаўся і чаму аказаўся такі доўгі шлях да адкрыцця?**

- Ідэя помніка Ларысе Геніюш нарадзілася яшчэ ў 1991 годзе, калі выйшла кніга паэткі «Споведзь». Тады ў мяне пачаў складацца кампазіцыйны партрэт і мастацкі вобраз будучага помніка. Напачатку я арэнтаваўся на тое, што ён будзе пастаўлены на могілках, дзе пахаваная Ларыса Геніюш. Але з'явілася іншая ідэя. Разам з Міхасём Чарняўскім мы знайшлі вельмі добрае месца, каля драўлянага дома, дзе жыла Геніюш. Гэты дом добра захаваўся. У задуме было выкарыстаць падворак, дзе на фоне драўлянага фасада паўстаў бы крыж. Увогуле тэматыка крыжа мне заўсёды бачылася як асноўная. Сама Ларыса Геніюш казала, што сімвал савецкай улады — гэта аўтамат Калашнікава, а наш беларускі сімвал — гэта пакутніцкі Крыж.



Пасля нарадзіўся мастацкі вобраз паэткі і сімвалы, якія зараз прысутнічаюць у помніку. На жаль, не ўсё, што я планаваў, зрэалізавана. Я імкнуўся, каб праз помнік прамаўляў сімвалічны вобраз Крыжа. Гэта ідэя была асноўнай у пабудове кампазіцыі. Выява павінна была месціцца на лёгкім металічным пастаменце. У аснавання помніка планавалася размясціць стылізаваны калючы дрот, як сімвал пакутніцкага лёсу Ларысы Геніюш. Аднак крыж, на жаль, не прачытваецца ў сённяшнім помніку, бо для пастамента выбралі граніт. Страчаная і лёгкасць, якую надаюць «крылы». Цалкам першапачатковая ідэя так і засталася незрэалізаваная, але я спадзяюся, што з часам гэта будзе выпраўлена.

**- Спадар Міхась, распавядзіце, калі ласка, пра папярэднія спробы паставіць помнік Ларысе Геніюш у Зэльве.**

- На пачатку 90-х мы спрабавалі дамовіцца з уладамі. Нам нават пайшлі насустрач. Было ўзгодненае месца, каля дома дзе жыла Ларыса Геніюш. Пасля з'явілася магчымасць гэты дом прыватызаваць, што мясцовыя жыхары і зрабілі. Высветлілася, што каля прыватнага дома ставіць нельга. Наступнай была тэрыторыя каля сельскага савета, пасля - каля краязнаўчага музея і г.д. У рэшце рэшт нам сказалі адкрытым тэкстам: «яна рэпрэсаваная і помнік ставіць нельга». На гэтым усё скончылася. Мы з Міхасём Чарняўскім зразумелі, што сітуацыя бязвыхадная.

Помнік быў адліты яшчэ ў 1993. Тады на асабістыя грошы Міхася Чарняўскага быў зроблены першы варыянт. Зараз ён знаходзіцца ў Скарынінскім цэнтры ў Мінску.

Нядаўна я ўбачыў у газеце, што клуб «Спадчына» зацікавіўся гэтай ідэяй. Я прапанаваў ім мае напрацоўкі ў надзеі, што нашая даўняя мара нарэшце споўніцца.

Зараз знайшлі вельмі добрае, на мой погляд, месца - каля царквы. Гэта адпавядае характару Ларысы Геніюш, бо яна была сапраўдная хрысціянка. Праз усе жыццё яна захавала веру, стала пакутніцай і натуральна, што царква дала благаславенне на ўстаноўку помніка. Хоць улады лічаць, што паэтка гэтага не заслужыла ні творчасцю, ні лёсам.

**- Як атрымалася аднавіць рысы твару і знешні вобраз паэткі?**

- Міхась Чарняўскі сабраў усе фотаздымкі, якія ў яго толькі былі. Гэта ўсяго 3–4 старыя фотакарткі. Адна з іх мяне вельмі натхніла. На гэтым старым здымку Ларыса Геніюш такая узнёслая - сапраўдная паэтэса. Канешне, можа быць у помніку і няма фатаграфічнай дакладнасці, але вобраз паэткі, як мне здаецца, перадаць атрымалася. Зэльвяне, што прыходзілі паглядзець на помнік, казалі: «Сапраўды, гэта наша Ларыса».

Я сам нарадзіўся ў Зэльве ў 1954 годзе, а ў 1956 туды з лагера вярнулася Ларыса Геніюш. Атрымліваецца, што ў дзіцячы садок я хадзіў каля яе дома. Калі мне было сем год, мы з'ехалі адтуль. Але Зэльва - мая радзіма, я прыйшоў там на свет, і таму для мяне гэты праект асабліва дарагі.

Вось так мусіў выглядаць помнік Ларысе Геніюш паводле аўтарскай задумы. Тут і ўзнёсласць таленту, і ўзнятасць пашаны, і памяць аб гадах пакутніцтва, і смутак аб усіх, каму выпадае бедаваць. А такіх сярод людзей - бальшыня.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Нязнаныя фотаздымкі Ларысы Геніюш





Ларыса Геніюш ў хаце і на царкоўным двары, дзе цяпер стаіць ёй помнік. Здымкі Вячаслава Дубінкі. 1981 год

---

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
ТК «Беларуская капэла» («НАВТ оперы РБ»)
Белдзяржфілармонія. Зала камернай музыкі
(пр. Ф. Скарыны, 44-а)
**XII фестываль**
**«Адраджэнне беларускай капэлы»**
**450-годдзю Рэфармацыі ў Беларусі прысвячаецца**

***4 снежня***
**Канцэрт арганнай музыкі**
**Уладзімір Неўдах**

I аддзяленне
Ё.Я.Фробэргер (1616–1667)
Г.Шайдэман (1595–1663)
Невядомы аўтар (XVII ст.)
А.Рагачэўскі (пач. XVI ст.)
С.Шайт (1587–1654)
Д.Ката (каля 1570–1615)
Я.П.Свелінк (1562–1615)
П.Жэляхоўскі (XVII ст.)
Я.Сава (пачатак XVI ст.)

II аддзяленне
Ё.С.Бах (1685–1750)
І.Брамс (1833–1897)
Н.Ж. Леменс (1823–1861)
М. Рэгер (1873–1916)
П. Флетчар (1879–1932)

***6 снежня***
**Ансамбль салістаў «Класік-авангард»**
**мастацкі кіраўнік - Уладзімір Байдаў**
**Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь**
**Мастацкі кіраўнік - Наталля Міхайлава**
**Салісты: Раіса Шытава (мецца-сапрана), Віктар Скарабагатаў (барытон), Янаш Нялепа (тэнар)**

I аддзяленне
М.Лютэр (1483–1546)
Г.Шуц (1585–1672)

II аддзяленне
А. Хамэршміт (1612–1675)
Ян з Любліна (XVII ст.)
В.Бакфарк (1505–1576)
В. Длугарай (1550–1619)
Ё.Розэнмюлер (1619–1684)
Л.Буржуа, словы Ж.Кальвіна.
З Жэнеўскіх псальмаў

***9 снежня***
**Ансамбль салістаў «Класік-авангард»**
**Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь**
**Салісты Алена Бундзелева, Віктар Скарабагатаў, Валеры Жывалеўскі (гітара)**

I аддзяленне:
М. А.Шарпанцье (1634–1704)
Ананімныя аўтары (XVII ст.)
П. Ё. Вейваноўскі (1640–1693)
Ё. С. Бах (1685–1750)
С. Шайт (1587–1654)

II аддзяленне:
С. Шайт
Ё. С. Бах
К. Клябан (каля 1555–1616)
Вацлаў з Шамотул (1529–1573)
Дз. Букстэхудэ (1637–1707)
Л. Буржуа, словы Ж. Кальвіна

**11 снежня**
**Ансамбль салістаў «Класік-авангард»**
**Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь**
**Салісты: Алена Сало (мецца-сапрана), Алег Кавалеўскі (барытон)**

I аддзяленне:
А. Г. Радзівіл (1775 - 1822)
Ё. С. Бах (1685 - 1750)
П. Ё. Вейваноўскі (1640 - 1693)
Ананімныя аўтары (XVII ст.)

II аддзяленне:
П. Хіндэміт (1895 - 1963)
Ц. Базылік (1535 - 1600)
Э. Н. Амербах
А. Г. Радзівіл



Заля камернай музыкі знаходзіцца ў касцёле святога Роха (пр. Ф.Скарыны, 44а, каля Палаца мастацтва)

# Хутаранец,

## або Партрэт у навакольным асяроддзі

**Валеры Дранчук – вядомы прыродаабаронца, журналіст, выдавец часопіса «Белавежская пушча», сябра Рады дэмакратычнага блока «Свабодная Беларусь», лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя» (1999, Аахен), прэміі імя Алеся Адамовіча за публіцыстычныя артыкулы ў абарону беларускай прыроды (2001, Мінск). Сябе вызначае адным словам – хутаранец.**



**– Вы нарадзіліся на хутары. Як гэта адбілася на Вашым характары?**

– Хутар – гэта колішняя панская сядзіба, па-тадышняму фальварак, які на пачатку стагоддзя купіў мой дзед Іван Ігнатавіч Рымашэўскі. Куток гэты мае глыбокую гісторыю і звязаны з сярэднявечным Нясвіжам. Цяпер гэта проста хутар, наша радавое гняздо, якое знаходзіцца ў адкрытай мясцовасці, бачнае здалёк і яшчэ выглядае на каштоўную каралю ў панішчаным навакольным пейзажы. На хутары я рос самым малодшым, апроч мяне ў сям'і былі брат і сястра. Выхаванне дзеда я сёння маю за найвялікшы дар лёсу. Не толькі таму, што мог сябе вольна пачуваць пад ягоным крылом, але і таму, што гэта сфарміравала мае стасункі і светапогляд. Нават калі ў 1969 годзе я паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, усе канікулы праводзіў там, на ўлонні прыроды.

**– І таму ў сферы Вашых захапленняў стала панаваць экалогія?**

– Так, экалогія з'явілася яшчэ на хутары. Але я мушу ўдакладніць, што не лічу сябе эколагам. Я – прыродаабаронца. Ёсць юрысты, а ёсць праваабаронцы. Так і тут: ёсць эколагі, а ёсць прыродаабаронцы. Эколагі – гэта ўсё ж такі навукоўцы, а прыродаабаронцы – тыя, хто змагаецца за зберажэнне прыродных асяродкаў.

**– Якая роля дзяржавы і асобы ў абароне прыроды?**

– Роля дзяржавы сёння з'яўляецца вызначальнай не ў абароне прыроды, а ў яе вынішчэнні. Прадстаўнікі раённых інспекцый прыродных рэсурсаў так і гавораць мне: «Мы займаемся тым, што абараняем прыроду ад самое дзяржавы». Але яны ж і апраўдваюць дзяржаўныя злачынствы супраць прыроды. Гэта вядомая з практыкі сістэма падвойных стандартаў. Сёння Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з'яўляецца галоўным апраўдальным ведамствам па шматлікіх злачынных дзеяннях з боку дзяржавы ў сферы прыродакарыстання.

На вялікі жаль, роля асобы ў абароне навакольных асяродкаў нізавая. Сёння трэба змагацца як за павышэнне статусу экалагічнай праблемы, так і за павышэнне ролі асобы ў рашэнні прыродаабаронных задач.

**– Вы можаце прывесці прыклад якога-небудзь дзеяння на павышэнне ролі асобы ў абароне прыроды як добры ўзор?**

– Напрыклад, у нас ёсць старыя сядзібныя паркі. Як правіла, імі ніхто не цікавіцца. Дзяржава магла б даць пазыку чалавеку, які гатовы ўзяцца за аднаўленне такога парка, ці пэўныя льготы – грамадскай арганізацыі, якая наважыла яго адраджаць. Гэтыя магчымасці можна знайсці ў тым жа экалагічным бюджэце. Сёння мы, грамадскасць, не маем, бадай, ніякага ўяўлення пра тое, на якія патрэбы ён траціцца. А чыноўнікі ад экалогіі і фінансаў пільна ахоўваюць гэтую тайну.

**– Вы былі ў розных краінах і ведаеце сітуацыю там. Якая асаблівасць экалагічнай сітуацыі, што склалася ў Беларусі?**

– Унікальнасць нашай сітуацыі ў тым, што шмат чаго мы яшчэ не паспелі згубіць, пусціць намарна. У нас не было развітай індустрыі прыродазнішчэння, папросту, не было казла ў агародзе. Лепш сказаць, быў, але не ўзброены прадуктыўнай тэхнікай, Husqvarнай пілой, напрыклад. Цяпер, на жаль, гэты рынак наступае, і сітуацыя змяняецца ў горшы бок.

Хочаце ведаць, хто сёння займаецца высечкай Белавежскай пушчы? Тыя, каго дырэктар нацыянальнага парка наймае з Расіі і Украіны. Мясцовы чалавечы фактар раптам стаў незапатрабаваны. Сотні карэнных «лесарубаў» - умоўна кажучы, бо сярод іх ёсць і эканамісты, і праграмісты – адхілены ад работы таму, што яны не паслухмяныя выканаўцы, а людзі з прынцыпамі. Іх прынцып просты – пушчу нельга секчы, яе трэба захаваць.

**– Ці можна пазначыць экалагічныя праблемы Беларусі двума словамі?**

– Наўрад ці гэта магчыма. Але асабіста для мяне гэтыя два словы – «вынішчэнне лесу». Наш галоўны прыродны скарб – гэта ўсё ж такі лес. І яго вынішчэнне сёння адбываецца на фоне, калі Акадэмія навук спрабуе рэалізаваць праект «Зялёнай кнігі». У нашым лесе яшчэ засталіся рэдкія дрэвастоі, пракаветныя раслінна-біялагічныя супольнасці – абараніць іх ёсць нашым святым абавязкам. Гэтая кніга магла б стаць першым механізмам абароны, але ўжо шэсць гадоў як гэты праект тармозіцца

**– Чым пагражае экалагічная праблема Беларусі самой Беларусі, Еўропе і свету?**

– Беларусі пагражае страта натуральных элітных лясоў, багнаў, прыродных тэрыторый, якія маюць культурную значнасць. Камерцыя на лясных багаццях набыланеверагодныя маштабы, і працэс гэты ўжо абсалютна не кантралюецца. І хоць такія паняткі, як ляснічы і егер, засталіся, яны ўжо ў «сістэме» – іх купілі.

Безумоўна, вынішчэнне Белавежскай пушчы пагражае Еўропе. Еўропа павінна ўцяміць, што Беларусь з яе балотнымі абшарамі, зялёным поясам, які складаюць лясныя ўгоддзі, – гэта аазіс. Мы лічым, што лес – гэта вытворца кіслароду, гэткі магутны біясферны фільтр, а высвятляецца, што балота ў гэтым сэнсе на парадак больш эфектыўнае за лес, і гэты факт даказаны навукова. Нашы лясы і багны – гэта лёгкія не толькі Беларусі, але і Еўропы. Да асноўнай праблемы даюцца: паховіны пестыцыдаў, старыя тэхналогіі вытворчасці, апустыньванне зямель і ландшафта, беднасць насельніцтва. Усе разам гэтыя праблемы могуць прывесці да катастрафічных наступстваў. Пушча з'яўляецца сусветнай каштоўнасцю таму, што гэта ці не самы апошні вялізны лясны масіў натуральнага паходжання - лес-самасей.

**– Існуюць нейкія планетарныя вартасці сусветнага ўзроўню ў прыродзе. У які шэраг гэтых вартасцяў Вы маглі б паставіць Белавежскую пушчу?**

– У шэраг тых сусветных каштоўнасцяў, якія залучаны ў Спіс сусветнай прыроднай спадчыны. Белавежская пушча была першым прыродным аб'ектам былога Савецкага Саюза, які трапіў у гэты Спіс дзесяць гадоў таму. Ужо пазней у гэтым Спісе з'явіліся прыродныя аб'екты з Расіі і іншых краін былога СССР. Польшча заносіла сваю частку Белавежскай пушчы ў Сусветную спадчыну, а паколькі пушча з'яўляецца трансгранічным аб'ектам, наша краіна таксама была вымушана гэта зрабіць. Нам папросту пашанцавала.

**– Як можна простага абывацеля ўцягнуць у працэс прыродааховы і давесці яму, што гэтая праблема найважнейшая?**

– Самы бяспройгрышны шлях – выхаванне дзяцей. Выхаванне праз любоў да прыроды – гэта і ёсць шлях да разумення сённяшніх праблем. Але гаварыць з дзецьмі трэба цёплымі, шчырымі словамі. Гэта накшталт рэлігіі.

**– Экалогія – гэта канстанта ці дынамічна зменлівы панятак?**

– Прырода – гэта канстанта, а экалогія – панятак, які дынамічна мяняецца. Мне так здаецца. Выклікі з'яўляюцца ўвесь час, да таго ж выклікі featureрознага кшталту. Дзякуй Богу, што сёння па радыё зрэдчас можна пачуць інфармацыю пра засмечанасць нетраў нашай зямлі цяжкімі металамі. А колькі тэм не гучыць? І ў гэтым, дарэчы, я бачу ці не самую вялікую правіну грамадскіх няўрадавых арганізацый, з лексікону якіх практычна зніклі ноты пратэсту. Сёння, калі нават сказаць грамадскім арганізацыям: «вось табе трыбуна, вось мікрафон», – баюся, не будзе каму і пра што прамаўляць. Я маю на ўвазе жыццёва важныя рэчы.

**– «Не будзе пра што...» А чаму так, з-за чаго? З-за непрафесіяналізму, боязі ці, можа, карумпаванасці?**

– Вылучыў бы адно – з-за непрафесіяналізму. Дакладней, з-за непрадметнасці, няздольнасці «агучваць» рэчы сваімі імёнамі. Трэба валодаць прадметам, асабліва статыстыкай. А гэта цяжка даецца.

**– Ствараецца грамадская арганізацыя пад рашэнне экалагічных задач, атрымлівае фінансаванне і вядзе непрафесіянальную работу?**

– Нярэдка іменна так: непрафесіянальную і непрадметную. Нейкая работа ёсць, але яна недакладная па выкліку. Напрыклад, колькі гадоў стаіць праблема запаведнасці. У нас з'явіліся нацыянальныя паркі, дзе ўкараняюцца антыэкалагічныя метады дзейнасці ў выглядзе высечак, продажаў, паляванняў, і ніхто на гэта не рэагуе такім чынам, каб улады адчулі. Нядаўна на Свіцязі прайшла сустрэча прыродаабаронцаў і эколагаў. Там ішла гаворка пра поўную бяздзейнасць грамадскага зялёнага сектара адносна гэтай праблемы. Выклік ёсць, а рэакцыі няма.

**– Чыя дзейнасць на ніве абароны прыроды ў свеце вам імпануе?**

– Ёсць запамінальныя прыклады. У Швецыі вырашылі перанесці ветраныя энергатурбіны ў мора, бо яны, на думку грамадскасці, псуюць традыцыйны ландшафт. На гэты конт пачаліся дэбаты і доўжацца ўжо тры гады. Далучаны прэса, тэлебачанне, грамадскія арганізацыі і, вядома ж, прафесіяналы. Гэта значыць, інструмент прыняцця рашэння заведзены, і ён не спыніцца, пакуль праблема, як прадмет не будзе вычарпана. Гэта ў рэшце рэшт і дасць жаданы вынік.

**– А ў нас?**

– А ў нас калегія Міністэрства прыродных рэсурсаў хутка чарговы раз будзе абмяркоўваць пытанне захавання біялагічнай разнастайнасці Белавежскай пушчы. Пашлюць у пушчу двух-трох чалавек, там яны трохі праветрацца, вернуцца і напішуць даведку. Затым пройдзе абмеркаванне пытання з наборам апраўданняў, чаму ў пушчы бедлам...

**– Значыць, некаму гэта выгадна?**

– Гэта на руку лесапрамысловаму лобі, якім стала і Кіраўніцтва справамі. Іншага зацікаўленага суб'екта я не знаходжу. Гэтым службам выгадна браць ад прыроды, вяртаючы нейкі мізэр або наогул нічога не вяртаючы. Для прыроды гэта балючы след, нават калі ссечана адно дрэва. А для Белавежскай пушчы гэта ўжо трагедыя. А іх тут высякаюцца сотні тысячаў.

**– Ці не значыць, што гаворкі пра высечкі ў пушчы наогул не можа быць?**

– Высечкі дапускаюцца, але ў абмежаваных дозах і з хірургічнай асцярожнасцю; тут дарэчы ўзгадаць аперацыйнае аддзяленне. У практыцы ж гэта так званыя санітарныя высечкі, за якімі павінны стаяць выключны прафесіянальны падыход, экалагічная дакладнасць і ўзважанасць. Не толькі біялагічнага кшталту.

Дзесяць гадоў таму вырашылі Налібоцкую пушчу запаведаць, але й па сёння гэтага не зрабілі. Зразумела, яна інтэнсіўна высякаецца. І хто гэта робіць? Дзяржава, лесапрамысловыя карпарацыі.

**– Рашэнні адносна высечак прымаюцца на ўзроўні ўрада?**

– Неабавязкова. Прыняцце такіх рашэнняў магчыма і на ўзроўні аблвыканкамаў. Ды дзе заўгодна! Каму трэба, даўно скемілі, што ўсё можа скончыцца ў адзін момант, і пакуль застаўся час, трэба скарыстацца, схапіць без праблем. Як правіла, гэта карпаратыўны інтарэс – іншага не бачу.

**– Апішыце найгоршы прагноз развіцця экалагічнай сітуацыі ў Беларусі.**

– Магчыма, гэта пытанне вялікай дыскусіі, але тое, што лясы мы губляем, несумненны факт. Я бачу гэта наўзвоч, нават на сваім, хутарскім узроўні, чую гэта ад людзей, якія адпачываюць у сябе ў вёсках і з кожным годам бачаць змены да горшага. Летась яны яшчэ бачылі перад вокнамі лес, а сёлета ўжо – суседнюю вёску. Лясы радзеюць, мізарнеюць, драўніна вывозіцца як стратэгічны тавар у напрамку бліжэйшай чыгуначнай станцыі, а цэлыя біялагічныя супольнасці спусташаюцца – вось вам тыповая тэндэнцыя.

Мы можам страціць лес, як страцілі 80 адсоткаў рэчак. Бо толькі 20 адсоткаў іх засталіся адносна некранутымі – неканалізаванымі і неасушанымі. Калі не ўзяцца за галаву, не спыніць рабаўніцтва, мы згубім лясы, і, па маіх разліках, гэтая праблема востра паўстане ўжо гадоў праз дзесяць-пятнаццаць.

**– Хто яшчэ адказны за вынішчэнне лясоў?**

– Лесапілка ў Белавежскай пушчы магла і не з'явіцца, калі б банк праявіў належную карэктнасць у адносінах да Пушчы як да рэзервата. Але банкі крэдытуюць такую дзейнасць як «прагрэсіўны» кірунак. Наколькі прагрэсіўны, мяркуйце самі. .

**– Якія тры першыя законы Вы ўнеслі б для прыняцця іх парламентам, калі б сталі дэпутатам?**

– Першы закон ці нейкі іншы прававы акт – аб стымуляванні экалагічнай дзейнасці ў трэцім сектары. 50 % усяго экалагічнага бюджэту, лічу, варта аддаваць грамадскім арганізацыям, у якіх працуюць энтузіясты-прафесіяналы. Але напачатку трэба запэўніцца ў працаздольнасці той або іншай экалагічнай арганізацыі шляхам маніторынгу і затым сярод лепшых праводзіць тэндэр.

Другі – на паляпшэнне якасці, арганізацыі і абарону ландшафта. У нас вельмі неарганізаваны ландшафт. Як паводле забудовы, так і зместу ўтрымання. Гэтае пытанне павінна рэгулявацца законам.

Трэці закон – на ўзмацненне абароны запаведных тэрыторый. Тут я зрабіў бы акцэнт на тое, што запаведныя тэрыторыі існуюць не толькі для таго, каб іх абараняць і берагчы, але на іх жа прыкладзе, абараняць і шанаваць тое, што за іх межамі.

**– Сёння па двух беларускіх каналах можна бачыць сацыяльныя ролікі з заклікамі пра беражлівыя адносіны да прыроды. Якое вашае стаўленне да іх?**

– Там добрыя кадры і добрыя словы, а сюжэты моцна фальшывяць. З аднаго боку, мы бачым, што робіцца з навакollем, з другога – міністэрства, якое апраўдвае экалагічныя злачынствы, замаўляе тэлебачанню такую двурушную рэкламу. Выглядае вельмі цынічна, па-фарысейску.

**Наталя КАЛЯДА,**
**Мікалай ХАЛЕЗІН**

*www.charter97.org*

# Беларускі камплект моваў

«У вёсцы жывучы, беларус усё «якае»: «як тое, як гэта ...», а ў горад перабраўшыся, «какаць» пачынае» – напісаў у сваёй кніжачцы ўнук Уладзіміра Содаля. Так яно найчасцей і здараецца. Але не заўсёды! Не ўсе тыя, што памянялі вясковую прастору на каменны гарадскі лабірынт, саромеюцца і адракаюцца сваіх каранёў. Ёсць тыя, што «якаюць», і робяць гэта свядома. Што ў нашым грамадстве адчувае той, хто свядома і прынцыпова ў паўсядзённым жыцці карыстаецца беларускай мовай? Менавіта гэта я маю на мэце праілюстраваць матэрыялам.

*

Многае залежыць ад таго, якую рэакцыю выклікае твая беларускамоўнасць. Напрыклад, зараз яна не ўспрымаецца так, як гадоў 20 назад. Тады сярод звычайнага люду загаварыць на ўзорнай літаратурнай мове не толькі ў абласным, а і ў раённым цэнтры значыла атрымаць адзіную характарыстыку – «калгаснік». Сёння ты – «інтэлегент», магчыма, «апазіцыянер». «Калі я загаварыў у вагоне па-беларуску, жанчына, што сядзела насупраць, адразу спытала «Вы, пэўна, філосаф?» – згадвае Уладзімер Арлоў. Зараз беларуская мова асацыіруецца з інтэлектуальнай працай яе гаспадара. Таму і рэакцыя найчасцей добразычлівая. Што казаць пра бібліятэкі, калі ў звычайнай краме бывае на «Дзякуй» адкажуць «Калі ліска».

Тых жа, што ў адказ прынцыпова падкрэсліваюць сваю небеларускасць, застаецца пашкадаваць. Не варта забываць, што само грамадства і яго палітыка пазбавіла гэтых слабых людзей самадастатковасці, навязаўшы ідэю непаўнавартаснасці роднай мовы. Літаральна сёння пачула ад старога вахцёра: «Гаварыць на вашай беларускай мове, значыць усё жыццё пражыць у балоце. Трэба вам, дзяўчынка, на рускай гаварыць і англійскі учыць». Звычайна, я імкнуся аргументавана пераканаць чалавека. Некаторыя мае знаёмыя адказваюцца падтрымліваць размову з такімі людзьмі (і няхай сабе) «суразмоўца» разумее гэта як сваю інтэлектуальную перамогу, якая натхняе і ўзносіць яго), усё больш маўчаць. Некаторыя ж увогуле абмяжоўваюць сябе кантактам выключна з аднадумцамі. Іншыя шчырыя беларусы, наадварот, радуюцца магчымасці пагаварыць з такімі субяседнікамі. « Для мяне сустрэць беларуса, што не ведае роднай мовы, і калі ў дадатак да ўсяго гэта мой выкладчык, - свята! Я магу ўдосталь пасмяяцца з яго, загнуўшы нешта кшталту «З-за браку мажлівасці...» або з ангельскай на беларускую тэкст перакласці. Няхай адчуюць, як дрэнна ўсё ж не ведаць беларускай мовы. Папросту, я ў сваё задавальненне загружаю такіх людзей. Заўсёды цікава назіраць, як яны, абсалютна не разумеючы, бывае згаджаюцца са мною. Гэта весела, але псіхалагічна і складана».

Складана размаўляць па-беларуску з цікавым і разумным чалавекам, што ведае мову і бывае дасканала валодае ёй, але не размаўляе. З прычыны таго, што думае на іншай, на расейскай. Размаўляць жа на беларускай для яго – адчуваць унутраны дыскамфорт і штучнасць. Але, трапляючы за мяжу, каб нас зразумелі, мы мусім размаўляць на замежнай, думаючы на роднай. Спачатку гэта канешне цяжка. Але, калі настроішся і прывыкнеш, лягчэй. Шлях да вырашэння гэтай праблемы ляжыць праз уласныя высілкі. Было б жаданне.

Псіхалагічна цяжка вытрымліваць чысціню мовы і ў зносінах з роднымі, якія гавораць на трасянцы. Ты імкнешся да таго, каб быць адкрытым. Але падсвядомасць не заўсёды, з-за наяўнасці моўнага бар'ера, дазваляе табе гэта. Таму, здараецца, са свайго боку ты адчуваеш, што шчыры не да канца.

Складана па-беларуску размаўляць і з тым, хто раней цябе ведаў як «звычайнага» беларуса. Падсвядомасць настройвае цябе на ўчарашні стыль і мову зносін, свядомасць кантралюе цябе сённяшняга і не пускае за межы вобраза.

*

Паводле карыстання мовай як сродкам зносінаў сёння наша грамадства можна падзяліць на некалькі груп. Актыўным носьбітам літаратурнай беларускай мовы з'яўляецца інтэлігенцыя (большая частка якой якраз і ёсць «сена на асфальце»), апазіцыянеры, моладзь, што заспела часы апошняга Адраджэння. Пасіўным - тыя ж, вышэй пералічаныя, сацыяльныя групы, але што ўжо карыстаюцца мовай у залежнасці ад сітуацыі. На трасянцы, у якой пераважае беларуская, гавораць вясковыя жыхары. Трасянкай, дзе больш расейскай, карыстаюцца вяскоўцы, што ўжо гараджане. Некаторыя называюць гарадскую трасянку «дземянцееўкай». «А ўсё начальства, малоцячы, як цяпер кажуць, на дземянцееўцы, думала, што гаворыць па-расійску» (*Рыгор Барадулін*).

Апошняй, самай нешматлікай (выкладчыкі і этнічная расейская інтэлігенцыя) ёсць група тых, што выдатна размаўляюць па-расейску. Усяго ж пяць груп. Наша грамадства размаўляе на розных мовах. А што не мова, то свая філасофія, таму кожная група па-свойму адчувае гэты свет і сябе ў ім. Дык ці не будзе гэта адной з прычынаў нашага такога працяглага і стабільнага неразумення адно аднаго?..

А што ў нашым грамадстве адчувае той, хто свядома і прынцыпова ў паўсядзённым жыцці не карыстаецца беларускай мовай? Пра гэта ў наступным нумары.

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# Франтавікі, схавайце ордэны

Шырока абвешчаная кампанія па святкаванні 60-годдзя вызвалення Беларусі не засталася па-за ўвагай махляроў. Яны адразу распачалі сезон палявання за баявымі ўзнагародамі ветэранаў вайны. Органамі ўнутраных спраў узбуджана некалькі крымінальных справаў у дачыненні да такіх махляроў.

Трэба зазначыць, што махляры вельмі добра рыхтаваліся да свайго чорнага занятку. Па-першае, у іх ёсць інфарматары, па-другое, яны чытаюць газетныя публікацыі на гэтую тэму і праз іх таксама знаходзяць ахвяры.Напрыклад, пасля публікацыі ў рэспубліканскай газеце артыкула аб «беларускай Пашы Ангелінай» злаўмыснік прыехаў у вёску і сілай адабраў у жанчыны ўзнагароды.

Але найчасцей выбіралася іншая схема злачынства, вельмі не прыемная для журналістаў. Справа ў тым, што махляры прыходзілі да ардэнаносцаў ці іх сваякоў пад маскай фотакарэспандэнтаў ці журналістаў.

Напрыклад, да ўдавы Героя Савецкага Саюза Леаніда Пунтуса прыйшоў ветлівы малады чалавек і сказаў, што рыхтуе фотаздымкі для кнігі «Іх імёнамі названы...» Рэч у тым, што ўдава героя жыве на вуліцы, якая носіць яго імя.

Жанчына паказала «фотакарэспандэнту» ўзнагароды, ён іх сфатаграфаваў. А праз два месяцы ён зноў з'явіўся ў доме Дзіяны Пунтус. Распавёў, што некалькі здымкаў атрымаліся неякасна, таму іх трэба зноў сфатаграфаваць. Калі ордэны і медалі жанчына склала ў шкатулку, «фатографу» зрабілася дрэнна: разбалеўся жывот. Жанчына пабегла на кухню, каб прынесці лекі. Малады чалавек праглынуў таблеткі, падзякаваў Дзіяне Аляксееўне, хвілін 10 пагутарыў з ёй і сышоў.

Праз некаторы час жанчына чамусьці адчула нейкі непакой і вырашыла паглядзець узнагароды. Сярод сямейных рэліквій удава Леаніда Пунтуса не ўбачыла самых дарагіх у прамым і пераносным сэнсе слова. У куфэрачку не аказалася зоркі Героя Савецкага Саюза, ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Аб крадзяжы жанчына паведаміла у РУУС Мінскага раёна.




З пачатку года ў Мінскай вобласці было зафіксавана 10 фактаў крадзяжу баявых узнагарод менавіта махлярамі, якія «прыкрываліся» легендамі аб журналісцкай дзейнасці. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку сталічнай вобласці ўжо злавілі аднаго махляра, за якім 8 фактаў крадзяжу ўзнагарод.

У Мінску фактаў крадзяжу ўзнагарод махлярамі менш, але яны выбіраюць сабе ў ахвяры людзей вядомых. Ад іх пацярпелі сваякі Кандрата Крапівы і ўдава кампазітара Юрыя Семянякі.

Якая з усяго гэтага мараль? Людзям патрэбна ўвага не толькі напярэдадні свята. Пажылым людзям цяжка ўявіць, што іх могуць падмануць, што ў вобразе ветлівага чыноўніка ці журналіста да іх завітаў бессаромны злачынца. Самы просты спосаб пазбегнуць непрыемнасцяз – затэлефанаваць у арганізацыю, ад імя якой з'явіўся нечаканы клапатлівец.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Пазбегнуць рабства

***25 лістапада быў Сусветны дзень супраць гвалту над жанчынамі. Свет, на жаль, застаецца такі ж жорсткі, якім быў на заранку цывілізацыі***

Па ацэнках экспертаў ААН, гандаль жанчынамі па сваёй прыбытковасці займае трэцяе месца пасля гандлю зброяй і наркотыкамі, а па бяспецы і беспакаранасці для «бізнесменаў» – першае месца.

Наша хрысціянская Беларусь таксама з'яўляецца краінай-экспарцёрам «жывога тавару». Па розных прычынах жанчыны аказваюцца праданымі ў сэкс-рабства. У нашай краіне дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі цяпер аб'ядналі свае намаганні ў барацьбе з гэтай заганнай з'явай. Сярод грамадскіх арганізацый, заклапочаных лёсам жанчын, знаходзіцца і Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва. У рамках гэтай асацыяцыі дзейнічае праект «Кансультацыйны цэнтр «Малінаўка», які юрыдычна замацаваны за дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля».

З 1989 года фонд «Дзецям Чарнобыля» займаўся адпраўкай дзяцей на аздараўленне ў 20 краін свету. З 1991 года распачаў розныя сацыяльныя праграмы самадапамогі грамадзянам, пацярпелым ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Паездкі дзяцей за мяжу мелі два бакі. Першы: аздараўленне, досвед жыцця ў краінах сталай дэмакратыі. Другі бок быў адмоўны: з'яўленне спажывецкага стаўлення да жыцця, фарміраванне сіндрому ахвяры, нежаданне браць на сябе адказнасць за свой лёс. Як распавяла Ірына Грушавая, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва, у 1997 годзе асацыяцыю зацікавіла яшчэ адна праблема. Дзеці, якіх запрашалі за мяжу неаднаразова, у захапленні ад таго, што іх прымалі ў розных краінах бескарысліва.

Зразумела, што ў чарнобыльскіх рэгіёнах у моладзі нешмат перспектыў. Таму, натуральна, што ўжо падрослыя дзеці любым чынам мараць зноў аказацца ў замежжы, дзе, ім здаецца, можна за кароткі час зарабіць грошы, каб заплаціць за навучанне, купіць кватэру, увогуле добра жыць у матэрыяльных адносінах. Шмат дзяўчат мараць выйсці замуж за іншаземца і назаўсёды застацца за мяжой.

Досвед паказвае, што за мяжой у нашых людзей ёсць не толькі шчырыя і бескарыслівыя сябры, але і тыя, хто гатовы ператварыць людзей у рабоў. Найперш – жанчын.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» з праблемай гандлю жанчынамі сутыкнуўся ў 1997 годзе. У адным з манастыроў горада Дрыберген (Галандыя) доўгі час хавалі беларускіх жанчын, вызваленых з бардэляў. Пасля размовы з жанчынамі стала зразумела, што ўсе яны ахвяры сацыяльнай неабароненасці дома, у Беларусі, і ахвяры ілюзіі, што недзе на зямлі ёсць рай. Ніхто з іх не мог уявіць, што абяцаны рай на самой справе будзе страшней за пекла. Гэтая сустрэча стала адпраўным пунктам ў новай дзейнасці фонду «Дзецям Чарнобыля» і Міжнароднай асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва. Яны вырашылі, што неабходна пабудаваць сістэму папярэджання жанчын аб небяспецы. Першае, што трэба было зрабіць, гэта ў даступнай форме папярэдзіць дзяўчат-падлеткаў, якія выязджалі за мяжу па праграмах аздараўлення, што ў Еўропе існуе не толькі дабро і любоў, але і бязлітаснае зло.

У 1998 годзе пачаў працаваць кансультацыйны цэнтр у мінскім мікрараёне Малінаўка. Аднак яго валанцёры адразу сутыкнуліся з няпростай праблемай. Дзяўчаты выслухоўвалі інфармацыю і замыкаліся ў сабе. Ім падавалася, што іх проста адгаворваюць ад паездкі, ад магчымасці зарабіць грошы, так бы мовіць, з ідэалагічных пазіцыяў, хоць у 1998 годзе не гаварылі так шмат аб ідэалогіі, як цяпер. Мусіць, генная памяць пакаленняў адыграла сваю ролю ў з'яўленні такіх думак у юных галовах. Як звычайна, дзяўчаты былі ўпэўнены, што з імі «такога не здарыцца». Тады фонд «Дзецям Чарнобыля» пачаў супрацоўніцтва з заходнееўрапейскімі жаночымі арганізацыямі, якія ўзялі на сябе працу апекавацца жанчынамі, якія сталі ахвярамі гвалту. Гэтыя арганізацыі шырока вядомы у Еўропе – Solvodi, Kobra, La Strada і іншыя. Гэтыя кантакты вельмі дапамаглі ў працы. У рэшце рэшт, жанчына сама вольная выбіраць: ехаць ёй за мяжу ці не, за каго выходзіць замуж – за суайчынніка ці іншаземца. Але фонд «Дзецям Чарнобыля» і Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва лічаць неабходным папярэдзіць аб магчымай небяспецы і паведаміць адрасы, па якіх можна звярнуцца ў выпадку бяды. На думку супрацоўнікаў гэтых арганізацыяў, галоўнае – не страх перад магчымай паездкай, а валоданне сітуацыяй. Трэба быць уважлівым. У паездцы за мяжу па недакладна акрэсленых адрасах і з абстрактна сфармуляванай мэтай (пачаць жыць лепей) нашмат болей небяспекі, чым пры пераходзе вуліцы. Пазбегнуць небяспекі на асфальце вучаць з дзяцінства. А пазбегнуць бяды на дарозе жыцця ў чужых краінах таксама не зашкодзіць павучыцца, каб не стаць рабыняў у злачынцаў.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**









Упершыню Ларыса Геніюш прыехала ў Зэльву ў 1936 годзе, калі нарадзіўся сын Юрка. Тады яна, яе муж Янка і немаўлятка пражылі тут год у бацькоў Янкі. Праз дваццаць гадоў Ларыса і Янка прыехалі ў Зельву па вызваленні са сталінскіх лагераў. Сын, ужо дарослы, вучыўся ў Польшчы. І трыццаць гадоў паэтка пражыла ў гэтай простай хаце, збудаванай бацькамі Янкі. Жылі небагата, галоўнай аздобай невялічкіх утульных пакояў былі кнігі, але тут часта гасцявала муза Геніюш, тут была напісана «Споведзь», тут Янка і Ларыса прымалі і частавалі сяброў. Зэльва – невялікае мястэчка, ніколі яго насельніцтва не перасягала 10 тысяч. Калі падняцца на гару, дзе некалі было гарадзішча, а потым стаяў мураваны касцёл, ад якога застаўся зарослы кустоўем падмурак, то ўся Зэльва бачная, як на далоні: царква, адноўлены касцёл, сквер, плошча, кінатэатр, рынак, старыя і новыя дамы - даўніна і будучыня. Азіраючыся на жыццё, у якім перамяжаліся шчаслівыя дні і дні пакутаў, ўзгадвала паэтка маладосць, шлюб, народзіны сына, сустрэчы з ім, з унукамі, калі стала можна наведваць сваякоў. Відаць самы вялікі боль яна адчула, калі сын заўчасна памёр. Потым не стала мужа, і адзінота - гэтая невясёлая спадарожніца сталых гадоў – навейвала сум. Ды не ўсё праходзіць на гэтым свеце. Ларысы Геніюш няма, а ейная прысутнасць адчуваецца ў Зэльве паўсюды. З зэльвянскім сем`ямі яна сябравала, паважала іх, а яны паважалі яе. І ужо ўспаміны панясуць яе вобраз далей у часе, у жывой гісторыі Зэльвы.









# Зэльва – прытулак Ларысы Геніюш












Здымкі ў Зэльве Ул. Шлапака. Здымкі ў пакоях Ларысы Геніюш В. Дубінкі. 1981 год.

# Францішак Багушэвіч
## у жупранскіх паданнях



Жыццё і творчасць выдатнага пісьменніка, «хроснага бацькі» Беларусі – Францішка Багушэвіча – былі цесна звязаны з Жупранамі і жупранскаю зямлёю. У апавяданні «Траляпёначка» з першых радкоў можна пазнаць, пра якое паселішча ідзе гаворка. Чытаем: «Вёска нашая, невялікая вёсачка, меж прыгоркамі, пры балотцы; на выган пясочак з прыгоркаў спёрла, тут і лес блізюсенька, лес хоць і чужы, але выгода ёсць...» Відавочна, тут апісваюцца блізкія Багушэвічу і добра знаёмыя Жупраны. Тым больш, што, па ўспамінах тутэйшых старажылаў, у блізкім ад мястэчка фальварку Малыя Шумілішкі жыла сям'я нейкага пана, які, таксама як і Прыбалдоў з «Траляпёначка», меў высокі ваенны чын. Відаць, гэты пан і паслужыў прататыпам генерала Прыбалдова.

Зусім непадалёк, за сем вёрстаў ад мястэчка знаходзіцца фальварак Кушляны, куды паэт вярнуўся пасля амністыі ўдзельнікам паўстання 1863 года і дзе пражыў усё сваё астатняе жыццё. Сам Францішак вельмі любіў бываць у мястэчку, гутарыць з людзьмі, запісваць народныя аповяды. Па фальклорных матывах напісана шмат яго твораў, напрыклад: «Здарэнне», «Гдзе чорт не зможа, там бабу пашле», «Быу ў чысцы!», «Сведка», «Палясоўшчык» і г. д. Можна з пэўнасцю казаць пра тое, што большасць сюжэтаў для сваіх твораў Багушэвіч пазычыў ад жупранцаў.

### Пра пушчу

Мясцовыя людзі захавалі ў памяці тое, што паэт вельмі шмат часу адводзіў на шпацыры па лесе, бо быў улюбёны ў Жупранскую пушчу, ад былой велічы якой засталіся толькі рэшткі. Тут ад палясоўшчыкаў Францішак запісваў показкі, смешныя выпадкі з іх жыцця. Асабліва падабалася яму слухаць успаміны пра мінулае Жупранаў, а сярод іх гісторыі пра Караля Радзівіла, больш вядомага пад мянушкай Пане Каханку. Гэты былы ўладар Жупранаў, таксама як і Багушэвіч, быу зачараваны мясцовым лесам. Пра гэта так напісаў Ф. Багушэвіч у адным з нумароў часопіса «Край»: «Калісьці «Пане Каханку»...быў так прыемна здзіўлены глухімі і непраходнымі лясамі і багаццем дзічыны, што нібыта ўсклікнуў: «Не ведаў я, што значыць Жупранская пушча!» У кожны свой прыезд Пане Каханку наладжваў тут вялікія ловы. З гэтых мясцінаў яму дастаўлялі мядзведзяў, якіх Радзівіл загадваў запрэгчы летам у сані, пасля чаго сядаў у іх і ехаў па дарозе, пасыпанай папярэдне соллю. «З багатым, як з дурным», - з усмешкай казалі жупранцы на дзівацтвы свайго інфантыльнага ўладара.

З Жупранскай пушчы папаўняла недахоп выхаванцаў блізкая адсюль і слынная на ўсю Еўропу так званая «Смаргонская акадэмія», у якой на гарачых падлогах вучылі гэтых касалапых звяроў танцаваць. У Жупранах Францішку паказвалі нават такія месцы, дзе бачылі сем мядзведзяў зараз, якія на ўскрайку лесу абіралі яблыні-дзічкі. Некалі шмат вадзілася ў навакольных лясах і зуброў. Ф. Багушэвіч з гэтай акалічнасцю звязваў узнікненне назвы мястэчка. Ён дапускаў, што першапачаткова паселішча называлася Зубранамі, а ўжо пазней, у сувязі з польскім уплывам, першы гук назвы гэтага населенага пункта пачаў вымаўляцца з шыпеннем. У выніку з Зубранаў сёння маем Жупраны. Магчыма, у нечым паэт і меў рацыю, але больш верагодна, што назва мястэчка куды больш старажытная. Яна, хутчэй за ўсё, засталася ў спадчыну ад балтаў – да прышэсця славянаў былых насельнікаў гэтых тэрыторый. Відавочна, што назва на працягу стагоддзя згубіла сваю этымалогію, але важны сам факт таго, што Францішак, як зацікаўлены краязнаўца, прапанаваў сваю ўласную, арыгінальную версію ўзнікнення назвы дарагога яго сэрцу мястэчка, спрабаваў разгадаць адну з таямніцаў сваёй малой радзімы.

### Пра касцёл

Акрамя ўсяго, Жупраны былі стольным, святым месцам для ўсяго навакольнага люду, у тым ліку і для сям'і Багушэвічаў. Штонядзелю і ў кожнае вялікае свята Жупраны склікалі касцельнымі званамі ўсіх - і сялянаў, і шляхту – пад адзін дах на супольную малітву. Жупраны станавіліся на гэты час «маленькім Рымам», месцам невялікіх паломніцтваў, куды людзі неслі адкрытыя сэрцы. Самі жупранцы з вялікім гонарам расказваюць пра Ф. Багушэвіча як галоўнага фундатара сваёй святыні, што гожа і велічна ўзвышаецца зараз над мястэчкам. На самай справе жупранскую бажніцу фундавалі графы Чапскія, але людская памяць трывала звязвае пабудову касцёла з імем Францішка Багушэвіча. Кажуць так, што ён ездзіў па парафіях, па фэстах, збіраў грошы на ўзвядзенне новай святыні, бо драўляны будынак старой прыйшоў на той час у занядад. Успамінаюць, што Францішак сам падвозіў камяні і яйкі, з дапамогай якіх мацаваліся сцены касцёла. Паэт, як згадваюць жупранцы, вельмі часта прысутнічаў на будоўлі, замешваў раствор, падносіў цэглу, дзеля святой справы не грэбаваў ніякай працай.



Зараз высокі, стромкі гмах касцёла, што атуляе гэтае людское пасяленне ад ліхіх вятроў і віхураў, з'яўляецца і бажніцай, і помнікам Ф.Багушэвічу адначасова. Унутры храма ўмуравана ў сцяну сябрамі паэта памятная пліта з партрэтам Багушэвіча. Перад гэтай выявай пабожныя бабулькі з далёкіх хутароў і засценкаў рабілі знак крыжа, жагналіся, прымаючы Францішка за нейкага святога. Цвёрда можна казаць, што ён варты гэтага, бо пражыў жыццё, годнае кожнага хрысціяніна.

### Пра характар

Пра яго незвычайнасць, адоранасць, Боскую іскру казаў сам талент Багушэвіча, дараваны мудрым Госпадам. Да гэтага часу беларусы захавалі ў сваім менталітэце павагу да людзей, якія адараваны ўменнем ствараць з слоў Гармонію і Прыгажосць. Такім быў Ф.Багушэвіч. Такім яго ведалі і паважалі ў Жупранах. Тутэйшыя жыхары даводзяць, што гэты чалавек быў узорам дабрыні: заўсёды спыніць, загамоніць, запытае пра здароўе, сям'ю. Заўсёды ў кішэнях Францішка знаходзілася для дзяцей цукерка ці сушаная грушка. Не любіў ён толькі лайдацтва і, калі ўбачыў, што нейкі мужык арэ поле дрэннай сахой, то падышоў і зусім зламаў яго саху. Між тым, Багушэвіч сам умеў іх напраўляць і рамантаваць, нягледзячы на прыналежнасць да шляхецкага саслоўя. Добра разбіраўся паэт і ў аграноміі. Самі сяляне раіліся з ім наконт пасадкі ці догляду розных культур, за што Багушэвіч карыстаўся належнай павагай. Кожнага, хто яго прасіў і не мог ніяк аддзячыць за паслугу, Францішак задарма абараняў у судзе. Такім запомнілі жупранцы Багушэвіча, калі той быў ужо ў сталым узросце. Пра яго ж маладога згадваюць, што нібыта ён напярэдадні паўстання 1863 года на жупранскім рынку выступаў з вялікага валуна і заклікаў народ падтрымаць паўстанне. Дакладна невядома, ці гэта быў сам Францішак, ці яго малодшы брат Валяр'ян, які таксама прымаў чынны ўдзел у паўстанні. Сам Францішак мусіў па дакументах знаходзіцца ў гэты час на Лідчыне, але па якойсьці прычыне мог завітаць і ў родныя мясціны. Сям'я Багушэвічаў падтрымлівала паўстанне. Не магла гэта падзея не закрануць і жыцця жупранцаў. Ад старэйшых з іх можна пачуць, што яшчэ іх дзяды памяталі той час, калі трэба было хавацца ў лясах ад пераследу царскіх войскаў. Жупранская пушча давала ім надзейны прытулак. Там яны жылі ў зямлянках, варылі ежу, палявалі, нават, як сцвярджаюць успаміны, пралі ніткі на калаўротах, ткалі на палянах між дрэў.

### Пра выратаванне

Зараз можна пачуць ад жупранцаў вельмі цікавую гісторыю пра тое, як Францішак Багушэвіч у час паўстання ратаваўся ад царскіх войскаў. Было так, што пасля адной з бітваў малады Франук мусіў уцякаць ад расейскіх казакоў. Яны доўга гналіся за ім, імчалі па слядах гэтага яшчэ нявопытнага паўстанца. Францішак ужо губляў надзею на ратунак, але нечакана спаткаў цыганскі табар, які спыніўся на начлег. Тут шмат стаяла цыганскіх фурманак, гарэла вогнішча. Было вельмі тлумна, бо адна з цыганак мелася раджаць і зараз крычала, лежачы ў кібітцы. Каля яе лёталі бегам, насіліся цыганяты, іх адганялі цыганкі, з якімі, у сваю чаргу, сварыліся цыганы. Стаяў страшэнны вэрхал. Ф.Багушэвічу нічога не заставалася як папрасіць сховішча ў табары. Цыганы хутка падхапілі маладога чалавека пад рукі і схавалі пад возам, на якім раджала жанчына. Тым часам неўзабаве прыехалі казакі. Яны запыталі ў цыганоў пра паўстанца, але тыя паведамілі, што нікога не бачылі. Казакі не паверылі, пачалі шукаць Багушэвіча ў табары. А якраз разрадзілася дзіцем тая цыганка, енкі і стогны якой чуў Францішак. Цыганы ж сказалі казакам, што ў іх звычай скакаць і весяліцца, калі новы чалавек прыходзіць у свет. Яны забавілі жаўнерам і не дапусцілі іх да таго месца, дзе быў схаваны малады паўстанец. Так цыганы выратавалі для Беларусі гэтага каштоўнага і неацэннага чалавека. Сам Багушэвіч быў моцна ўдзячны сваім выратавальнікам і запрасіў іх да сябе ў Кушляны. Цыганы такія людзі, што ўвесь свет ім радзіма і ўсе дарогі знаныя. Яны сапраўды прыехалі да Багушэвіча ў Кушляны. Тады, што добра памятаюць жупранцы, Францішак, як і абяцаў, добра ўзнагародзіў цыганскі табар. Ён наладзіў для іх вялікую гулянку, на якой ігралі свае вясковыя музыкі. Да ўсяго Багушэвіч дадаў ім пяць асьмін ячменю на гарэлку і цэлага вялікага быка на закуску.

### Пра камень

Шкада, але невядомы зараз лёс таго славутага каменя, з якога прамаўляў, кідаў жывое слова ў народ Ф. Багушэвіч. У савецкія часы, калі не надта клапаціліся пра культурную і гістарычную спадчыну, улады некуды звезлі яго, сцягнулі. Зараз у жупранскім скверы, дзе стаіць помнік Ф.Багушэвічу, ляжыць нейкі востраверхі камянюка, але, кажуць, зусім не той. Даводзяць жа, што сапраўдны камень быў у некалькі разоў большы і гладкі, пакаты зверху. Ён знаходзіўся ў цэнтры Жупран здаўна і выкарыстоўваўся ў часы паншчыны як месца пакарання сялян. Відаць, гэта быў нейкі незвычайны, сакральны камень, які быў на гэтым месцы яшчэ са старажытных часоў і якому, магчыма, маліліся продкі сучасных жупранцаў.

### Пра развітанне

Настолькі магутнай была повязь Ф. Багушэвіча з Жупранамі, што ён сам, ужо калі быў хворы і прадчуваў блізкі канец, папрасіў, каб яго пахавалі ў Жупранах. Тут, на простым вясковым могільніку са старымі, збуцвелымі крыжамі, быў ужо шмат хто пахаваны з



родных Францішка. Тая зямля, па якой любіў вандраваць паэт, мераць яе нагамі, дала і апошні прытулак гэтаму выбітнаму чалавеку, генію, які адзін з першых пачаў адраджаць Беларусь. Ф.Багушэвіч душой і целам быў з народам да апошняга, ва ўсім жадаў яму наследаваць і ні ў чым ад яго не адступаць. Ён сам прасіў, каб на яго магіле не было нічога, акрамя простага дубовага крыжа. Сяляне ў апошнюю дарогу праваджалі свайго «адваката», несучы на ўласных плячах дамавіну з нябожчыкам увесь шлях з Кушлянаў у Жупраны. Тут адбылася жалобная імша, на якой прысутнічалі таксама сябры і калегі Багушэвіча з Вільні. Касцёл ледзь змясціў усіх, хто прыйшоў развітацца з песняром. Тут жа, недалёка ад самой святыні, у глыбокі дол апусцілі труну з целам слаўнага сына сваёй зямлі. Тут раздаваўся плач тых, хто любіў і цаніў Багушэвіча. Тут плыў у паветры жалобны, дрыготкі, як асенні ліст, і пранізлівы спеў, якім люд развітваўся са сваім апосталам, якім у поўным сэнсе гэтага слова стаў Францішак з Кушлянаў для ўсяго беларускага народа. На надмагільным драўляным крыжы доўгі час віселі, павеша-



ныя руплівымі жупранцамі, дудка, смык і скрыпка, як сімвалы і атрыбуты магутнага таленту песняра. З цягам часу на магіле Багушэвіча паўстала шыкоўная памятная пліта з мармуровай крошкі, на якой па-мастацку выкананы барэльефны партрэт самога паэта. Жупранцы, шануючы наказ свайго славутага земляка, прыладзілі да пліты крыжык. Шмат мінула гадоў з таго часу, шмат перамянілася ўладаў, але вечнымі застаюцца Жупраны і Багушэвіч. Мястэчка ж стала своеасаблівай Мекай, куды прыязджае пакланіцца магіле песняра кожны, у чыіх грудзях б'ецца адважнае сэрца Беларуса.

**Віктар ШУКЕЛОВІЧ**

*Напісана на аснове гутарак са старэйшымі жупранцамі*

# Як уяўляла Еўропа беларусаў перад абвешчаннем БНР

**Што ведалі пра Беларусь у 1910–1920 гадах тагачасныя еўрапейскія валадары думак? З якіх крыніцаў яны чэрпалі звесткі, на падставе чаго ў еўрапейскіх сталіцах потым прымаліся нейкія заходы ў дачыненні да нашага краю?**

**Для публікацыі выкарыстана архіўнае даследаванне гісторыка Ігара ЛЯЛЬКОВА «Матэрыялы па гісторыі Беларусі ў асабістым фондзе Альбэра Тама ў Нацыянальным архіве Францыі».**

### Выклад зместу артыкула ў ранішнім выпуску нямецкай газеты «La Gazette du Rhin et de Westfalie» ад 12.03.1918:

«Найлепшым выхадам было б стварэнне Вялікага Герцагства Варшаўскага пад нямецкім сюзерэнітэтам, без надання, аднак, палякам права турбаваць палітычнае жыццё Германіі праз дасыланне сваіх дэпутатаў у Рэйхстаг. Мы не ведаем, ці рэальнае такое рашэнне пры сучасным стане рэчаў. Ва ўсялякім выпадку, палякі мусяць забяспечыць нам неабходную стратэгічную бяспеку. Германія патрабуе для сябе кавалак Заходняй Польшчы, адрэзаны так, каб мяжа (Польшчы) праходзіла па лініі Нараў-Вісла-Варта; Дамброўскі вугальны басейн будзе, такім чынам, належаць Германіі. [...]

У якасці кампенсацыі можна было б аддаць Польшчы Беластоцкі раён, які належыць Літве, аднак яго насельніцтва не польскае і не літоўскае, але беларускае».

### Выняткі з артыкула Ганса Форста «Лёс Балтыйскіх краёў» у вячэрнім выпуску нямецкай газеты «Berliner Tageblatt» ад 29.06.1918:

«Цяжка ўявіць сабе незалежную Літву або Беларусь, бо наўрад ці там існуе інтэлектуальная эліта, якая стала б апірышчам гэтай незалежнасці. Што датычыцца Латвіі і Эстоніі, то там, наадварот, існуюць даволі шматлікія адукаваныя колы грамадства, якія могуць забяспечыць менавіта незалежніцкі напрамак развіцця падзей».

### Поўны пераклад артыкула «Народы балтыйскіх краёў і Літвы» з англійскага часопіса «The round Table» за сакавік 1918:

«Абшар, які завецца балтыйскімі краямі, складаецца з Эстоніі, Лівоніі і Курляндыі. Ковенская, Віцебская, Віленская, Гродзенская, Мінская і Магілёўская губерні ў агульных рысах адпавядаюць таму, што звалася Літвою паміж 1569 і 1772. Балтыйскія краі – гэта краіна эстаў і латышоў, а гістарычная Літва населеная літоўцамі і беларусамі. Аднак ні краіна эстаў і латышоў, ні этнаграфічная Літва і Беларусь не пазначаны ні на якіх гістарычных ці адміністрацыйных картах.

Іх нацыянальны характар выяўляецца праз мову шматлікіх сялянскіх масаў. Палітычныя межы тут былі вызначаны народамі, падданымі якіх былі гэтыя сялянскія нацыі, палякамі, немцамі, велікарусамі і, у пэўны час, шведамі. Вялікія зямельныя ўладанні і да сёння знаходзяцца ў руках немцаў у балтыйскіх краях і палякаў у гістарычнай Літве. У балтыйскіх краях важную меншасць у гарадах складаюць немцы і габрэі, у гістарычнай Літве з габрэяў складаецца найвялікшая частка гарадскога насельніцтва. У літоўскіх гарадах ёсць значныя польскія кварталы, а таксама існуюць польскія энклавы ў Віленскай і Гродзенскай губернях. Велікарусы жывуць раскіданымі групамі па ўсіх балтыйскіх краях і ў Літве. [...]



Беларусы засяляюць найбольшую частку Віленскай і Гродзенскай губерняў, а таксама цалкам губерні Мінскую, Віцебскую і Магілёўскую. Іх мова з'яўляецца дыялектам рускай, а самі яны – адгалінаваннем рускай нацыі. Як і літоўцы, беларусы згубілі свае вышэйшыя класы – апошнія растварыліся ў польскай арыстакратыі і дробным шляхецтве і зрабіліся чужымі для ўласнага народа. Два найбольш вядомыя ў свеце палякі, - польскі нацыянальны герой Касцюшка і паэт Міцкевіч, – абодва беларусы з паходжання [...] Калі б пасля падзелу Польшчы і вяртання гэтых тэрыторый Расіі апошняя заснавала там хаця б элементарную сістэму адукацыі, то ніхто сёння не разглядаў бы беларускую гаворку як мову. Бо толькі ў апошнія гады з'явіліся спробы распаўсюджання літаратурнай беларускай мовы. Гэтая мова ідзе ад дыялекта да дыялекта і паступова раствараецца ў велікарускай і маларускай мовах. І сапраўды, проста немагчыма адрозніць бела- ад маларусаў там, дзе яны сыходзяцца ў Гродзенскай губерні, пасярод найвялікшых у Еўропе лясоў і балотаў. Там цэлыя вёскі, цалкам аддзеленыя адна ад адной і размаўляюць на асобных мовах. Аднак які-кольвек знаўца веліка- ці маларускай мовы з лёгкасцю зразумее любы варыянт мовы беларускай.

4/5 беларусаў – праваслаўныя, а 1/5 – жыхары заходніх паветаў Віленскай і Гродзенскай губерняў, з'яўляюцца каталікамі. На працягу стагоддзяў палякі вялі паміж іх каталіцкую і уніяцкую прапаганду, каб паспрабаваць адчужыць беларусаў ад велікарусаў і падзяліць гэтыя дзве галіны рускай нацыі. Яшчэ і сёння большасць каталіцкіх святароў у Беларусі – гэта палякі, якія спраўляюць службы на польскай мове, зусім незразумелая для сялян. Верагодна, што менавіта гэты чужы характар царквы аказаў амаль неадчувальны ўплыў хрысціянства на заходніх беларусаў, насельнікаў найбольш дзікіх і найбольш недаступных куткоў Заходняй Расіі, якія па сваіх вераваннях, звычаях і поглядах застаюцца напэўна самым паганскім народам у Еўропе. Ва ўсялякім выпадку, палякі дасягнулі аднаго: беларускія каталікі завуць сваю рэлігію «польскай верай», што нават прыводзіць да вялікіх памылак у час перапісаў. Кінглэйк, які каля 1850 г. падарожнічаў па тэрыторыі сучаснага Балгарскага каралеўства, у апісанні свайго падарожжа зусім не згадвае пра балгараў, а гаворыць спрэс пра «грэкаў». Аднак смешна было б сцвярджаць, што балгарскі селянін калі-небудзь лічыў сябе элінам; гэтым «грэкам» ён усяго толькі хацеў пазначыць сваё веравызнанне. Так і беларускі селянін, нават калі ён называе сябе «палякам», проста хоча сказаць, што з'яўляецца катоалікам, а зусім не тое, што ён адной нацыянальнасці са сваім польскім гаспадаром.

Эстонцы і латышы, літоўцы і беларусы амаль усе з'яўляюцца сялянамі, і зямля - гэта стрыжань іх жыцця і іх думак. Захаваць зямельны надзел, якім яны валодаюць, і павялічыць яго – вось жаданне, што наймацней укаранілася ў іх сэрцы. Дарэчы, іх нацыянальныя інтарэсы адпавядаюць гэтай агульнасялянскай празе зямлі, бо ўсе вялікія маёнткі ў гэтых краінах знаходзяцца ў руках замежнікаў, немцаў або палякаў. [...]

Варожасць літоўскіх і беларускіх сялянаў да сваіх польскіх гаспадароў не менш моцная, чым тая, што існуе ў балтыйскіх краях. І да сёння гэты фактар вызначае палітычнае жыццё ва ўсёй гістарычнай Літве. [...]

Магутны аграрны рух, выкліканы рускай рэвалюцыяй, які ахапіў сёння ўсю Усходнюю Еўропу, дапаўняецца ў Літве супрацьстаяннем паміж польскімі буйнымі землеўладальнікамі ды літоўскімі і беларускімі сялянамі. Польскі нацыянальны інтарэс у Літве ў асноўным, а дзенідзе і цалкам, мае сваім апірышчам буйныя маёнткі і ўплыў, які яны аказваюць на краіну. Самі палякі часта вымяраюць свой «Status possidenti» ў Літве ў мільёнах акраў, якімі валодае тут іх шляхта. Кожны маёнтак – гэта большы ці меншы польскі цэнтр, куды служачыя і пакаёўцы набіраюцца з палякаў. Такім чынам, адзіная рэч, якую польскія нацыяналісты ніколі не змогуць дапусціць у Літве, гэта ўсеагульная рэформа, а менавіта яна з'яўляецца першым пунктам у нацыянальнай праграме літоўцаў і беларусаў. Польскае ўладаранне ці то ў Літве, ці то ў Беларусі цалкам можна акрэсліць як уладаранне ўласнікаў зямлі, і гэта менавіта тая ўлада, якую землеробчае насельніцтва не прыме ніколі.

Наступнае здарэнне добра характарызуе пазіцыю беларусаў у адносінах да палякаў. У красавіку 1917 г. Беларускі сялянскі кангрэс у Мінску выказаўся супраць аўтаноміі Беларусі і за яе непасрэдную прыналежнасць да Расіі. «Настрой, што панаваў на кангрэсе, удзельнікамі якога былі выключна беларускія сяляне, – піша адзін польскі часопіс, – адлюстраваўся ў тым, што аднаму з аратараў было не дазволена прамаўляць па-беларуску, а прыхільнікі аўтаноміі перапыняліся крыкамі «Мы не жадаем аўтаноміі, аўтаномія навязаная «панамі» (польскімі землеўладальнікамі), каб трымаць нас пад сваёй уладай і не даць нам зямлі і т.д.». Ненатуральная нянавісць беларускіх сялян да ідэі беларускай аўтаноміі нараджаецца з агіды, якую яны адчуваюць ад польскай палітыкі буйных землеўладальнікаў, і са страху перад магчымасцю пераняцця ўлады ў аўтаномнай Беларусі польскімі рэакцыйнымі элементамі.

У апошнія месяцы землі Літвы, што засталіся ў расійскім тыле, сталіся арэнай жорсткай сялянскай рэвалюцыі, а шмат якія маёнткі былі разрабаваны і спалены. Сяляне бяруць рэванш за стагоддзі нявольніцтва і прыгнёту. А на Захад ад лініі фронту, пад нямецкай акупацыяй, літоўскія і беларускія сяляне скрыгочуць зубамі ад думкі, што яны не могуць вырашыць аграрную праблему па прычыне прысутнасці нямецкіх войскаў. Польская прэса не хавае, што калі гэты край пакінуць войскі, то адразу ж выбухне сялянская рэвалюцыя. Паўстанец-селянін, які прагне зямлі, з'яўляецца сёння адзінай моцнай антынямецкай сілай у балтыйскіх краях і ў гістарычнай Літве і, такім чынам, магутным саюзнікам для кожнага, хто змагаецца супраць Германіі».

### Друкаванае выданне «L'Ukraine: Edition non-periodique, publiee par W.Stepankowski», № 9, выдадзенае ў Лазане 25.05.1916. Зварот да Прэзідэнта ЗША ад імя «Лігі іншародцаў Расіі», у якую ўваходзілі прадстаўнікі фінаў, «балтаў», літоўцаў, беларусаў, палякаў, габрэяў, украінцаў, «мусульманаў Расіі», грузінаў:

«Мы ведаем Вас, спадар Прэзідэнт, як найпалымянейшага абаронцу чалавечнасці і справядлівасці, таму звяртаемся да вас і ў вашай асобе да ўсіх заступнікаў чалавечнасці, каб давесці аб тым, як нашыя браты па роду і па веры пакутуюць па віне Расіі.

Праз ваша пасрэдніцтва, спадар Прэзідэнт, мы таксама звяртаемся да нацый, якія сёння з'яўляюцца саюзнікамі Расіі, з надзеяй, што іх любоў да свабоды і справядлівасці дазволіць ім зразумець глыбіню нашых няшчасцяў. [...]

Мы, літоўцы, калісьці незалежны і магутны народ, пад рускім уладараннем былі прыніжаныя да стану нявольнікаў. Насуперак урачыстым абяцанням, мы ўбачылі наш «Літоўскі Статут» адменным, нашу рэлігію, спадчыну продкаў, праследаванай, нашы храмы згвалтаванымі, адабранымі ад каталіцтва і аддадзенымі ў праваслаўе, царкоўную маёмасць канфіскаванай. Прагрэс і ўвогуле любыя спробы інтэлектуальнага развіцця былі затрыманы шляхам забароны на выданне прэсы, абвешчанай Мураўёвым, каб нанесці смяротны ўдар па нашай мове: валоданне кніжкай малітваў па-літоўску каралася вязніцай або высылкай у Сібір. Вялікая частка нашай краіны была ператворана ў царскія маёнткі: руская каланізацыя мусіла пазбавіць літоўцаў зямлі. Сёння рускія арміі, якія адступаюць, нішчаць багацце краіны, палююць на жыхароў і пустошаць такі калісьці квітнеючы край.

Мы, беларусы, у той момант, калі мы трапілі пад рускае панаванне, былі народам, што меў уласную мову, сваю літаратуру, сваю нацыянальную царкву і свае законы. На працягу ста дваццаці гадоў нашай падпарадкаванасці Расія сістэматычна прыгнятала нас з мэтай дасягнуць нашай поўнай дэнацыяналізацыі. Нацыянальная царква была забаронена, а дзяржаўная рэлігія навязана сілай. Мы больш не маем права ні маліцца, ні вучыцца па-беларуску. Калі рускія войскі пакінулі Заходнюю Расію, яны гвалтам забралі з сабой сотні тысяч беларусаў, разбурылі вёскі і мястэчкі, знішчылі ўраджай і ператварылі краіну ў пустэчу. [...]

У той час, калі нашы браты аддаюць Расіі свае жыцці на палях бітваў, рускі ўрад аддае нашы радзімы ў поўную ўладу сваім разбэшчаным адміністратарам, якім нішто не перашкаджае ў іх знішчальнай працы.

Мы не скардзімся на спусташэнні, якія з'яўляюцца непазбежнымі наступствамі вайны, не пратэстуем супраць рэквізіцый, неабходных для ўтрымання арміі, ані супраць знішчэння ці перамяшчэння багаццяў, якія не павінны патрапіць у рукі ворага. Але мы падаем скаргу на бязмэтныя інтэнсіўныя спусташэнні, якія часта ажыццяўляюцца па загаду зверху. Мы пратэстуем супраць гнюсных абвінавачванняў, што высоўваюцца ў дачыненні да лаяльных падданых, супраць іх збірання ў вязніцу, высылак, выгнанняў, голаду, пакутаў і смерці мільёнаў бязвінных старых, жанчын, дзяцей.

Мы ведаем, што мільёны нашых суайчыннікаў сёння знаходзяцца яшчэ ў руках у рускіх; мы ведаем, што іх голас закрыты... І мы, тыя, што па той бок мяжы, ведаем, як рускі ўрад будзе помсціць нашым безабаронным родным і суайчыннікам, калі не здолее дастаць тых, хто абвяшчае праўду. Мы нічога не можам зрабіць для іх выратавання. Хай сцеражэ іх Госпад!

Але мы таксама ведаем, што ніхто з нашых не дасць веры рускім абяцанкам. Ні мы, ні нашы нашчадкі ніколі не забудзем тых пакутаў і таго лёсу, на які яны нас асудзілі. Расія пакінула на знядбанне і давяла да нявольніцкага стану народы, якія ёй даверыліся. Яна скарыстала нашу слабасць і выкарыстала сваю вайсковую сілу, каб катаваць нас і знішчаць дабрабыт будучых пакаленняў».

# Узгадваючы Рэйтанаў

## *Роздум ля памятных мясцін пра беларускую занепакоенасць знаных людзей*

Беларускія аматары роднай даўніны ў сваіх вандроўках па памятных мясцінах абавязкова наведваюць і Грушаўку паблізу Ляхавічаў. Гэты маёнтак з паловы XVII стагоддзя да 1939 года належыў Рэйтанам і вядомы найбольш з трагедыі Тадэвуша Рэйтана. Род Рэйтанаў паходзіў з немцаў, але на момант набыцця Грушаўкі быў ужо цалкам спаланізаваны, як і большыня мясцовай шляхты. Дом, які зараз стаіць у Грушаўцы, пабудаваны Юзафам Рэйтанам, унукам Тадэвуша, на падмурках дзедаўскага дома. Юзаф Рэйтан памёр у 1910 годзе і на ім мужчынская лінія роду згасла. Да 1939 года Грушаўкай валодала ўдава Юзафа, Аліна з Гартынгаў Рэйтанава, якую ў тым годзе вывезлі ў Сібір. Яна памерла па вызваленні ў 1945 годзе. Суўладальнікам маёнтка быў таксама пляменнік Юзефа Рэйтана, Генрык Грабоўскі. У верасні 1939 года яго забілі тутэйшыя сяляне.





Тут варта нагадаць, чаму асоба Тадэвуша Рэйтана абкружана ў палякаў паважнымі легендамі. У жніўні 1772 г. манархі Расіі, Аўстрыі і Прусіі дамовіліся аб першым падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У верасні таго года яны запатрабавалі склікання надзвычайнага сейма, каб фармальна пацвердзіць законнасць захопаў. Расія адрывала ўсходнюю частку беларускіх зямель агульным памерам прыблізна ў 82 тысячы кв. км і насельніцтвам звыш мільёна чалавек.

Ад Навагрдскага павета ў сакавіку 1773 г. пасламі на сойм у Варшаву былі абраныя Тадэвуш Рэйтан і Самуэль Корсак. Згодна з традыцыяй для паслоў на вальны сойм павятовы соймік прымаў спецыяльную інструкцыю. Паслы павінны былі настойваць на поўнай эвакуацыі расійскіх войскаў з тэрыторыі Княства, ім было наказана перашкаджаць працы сойма, пакуль не будуць абраныя спецыяльныя прадстаўнікі ад еўрапейскіх дзяржаваў з мэтаю атрымання гарантый па захаванні цэласці Рэчы Паспалітай. Рэйтан і Корсак на першых паседжаннях сойма выступілі супраць здрадніцтва Адама Панінскага, маршалка прарасійскай канфедэрацыі. Яны заклікалі іншых паслоў не дапусціць абрання Панінскага соймавым маршалкам і тым самым, па сутнасці, сарваць сойм. На адным з паседжанняў Т.Рэйтан, дамагаючыся ад паслоў такога рашэння і не выпускаючы іх з залы паседжанняў, лёг крыжам перад выхадам. Ён крычаў: «Тапчыце мяне, не тапчыце дзяржаву!» Панінскі прапанаваў Рэйтану дзве тысячы дукатаў за далучэнне да прарасійскай канфедэрацыі, Рэйтан у сваю чаргу прапанаваў Панінскаму пяць тысяч дукатаў, каб той адмовіўся ад здрады. Кароль Станіслаў Аўгуст пад пагрозай расійскага пасла ўвесці войскі ў Варшаву і дашчэнту разбіць горад, быў вымушаны далучыцца да канфедэрацыі.

Пасля гэтага сойму Рэйтан невылечна захварэў. Рэшткі свайго жыцця правёў у Грушаўцы, дзе ў 1780 годзе скончыў жыццё самагубствам. З гэтай прычыны не мог быць пахаваны на могілках, і па 1930 год ніхто не ведаў, дзе ягоная магіла.

Самуэль Корсак вядомы як удзельнік паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Загінуў 4 лістапада 1794 г. пры абароне Варшавы ад войскаў Суворава.

Пра Корсака мала хто ведае, а Тадэвуша Рэйтана трагічны канец жыцця (пражыў 38 гадоў) зрабіў легендарнай асобай, яму прысвечана шмат вершаў, Ян Мацейка ўшанаваў яго на знакамітай карціне, і ён для палякаў сімвал вернасці і абароны Радзімы. У 1860 годзе на сядзібе быў пастаўлены Стэфанам Рэйтанам бюст Тадэвуша, які ў часе паўстання схавалі, а потым вывезлі ў Кракаў, дзе цяпер ён знаходзіцца ў Нацыянальным музеі.

У фамільную капліцу Рэйтанаў, якая стаіць пры дарозе з Грушаўкі да Ляхавічаў, у 1930-я гады перахавалі астанкі Тадэвуша, якія знайшлі блізка сядзібы. Тут да вайны стаяў помнічак Рэйтану, а цяпер усталявана памятная дошка з надпісамі ў польскай і беларускай мовах, фундатарам якой выступіў польскі бок. Польшча Рэйтана шануе, бо ён выступаў за цэласнасць Рэчы Паспалітай.

У нас менш вядома, што ўзгаданы вышэй Генрык Грабоўскі, праўнук Тадэвуша Рэйтана, паўтарыў учынак свайго знакамітага прадзеда ў час паседжання польскага сойма 14 красавіка 1921 года, дзе выступіў з пратэстам супраць ратыфікацыі Рыжскага міру, які, на яго думку, пакідаў пад уладай Саветаў вялізныя «польскія» тэрыторыі на ўсход ад агаворанай мяжы. Беларусь, зразумела, пры гэтым, не ўзгадвалася. Польшча атрымала ў 1921 годзе палову Беларусі і тры мільёны насельніцтва. Усе яны неўзабаве зведалі актыўную паланізацыю.

Не дзіва, што нас проста не ведалі ў Еўропе, калі ўтварылася БНР. Адукаваная частка беларусаў успрымалася як палякі, неадукаваная лічылася ні на што іншае нездатнай, апроч вясковай працы. Тое ж прыкладна можна сказаць і аб успрыняцці беларусаў у Расіі, дзе, гэтак мовіць, хацелі ім шчасця пры ўмове вяртання в «исконно русские» і адмовы ад «испорченного поляками русского языка». Нам ніколі не хапала духу застацца самім па сабе. Звычка трымацца кагосьці – «Мы з вамі»( ці з палякамі, ці з расейцамі) і па сённяшні дзень ў нас жыве і скажае нашае дзяржаўнае будаўніцтва. Шкадуючы Тадэвуша Рэйтана як чалавека, які заўчасна пайшоў з жыцця з прычыны нязгоды са здрадніцтвам, падзелам радзімы, не варта забываць, што радзімай ён лічыў Польшчу. Мы любім карыстацца паняццем Рэч Паспалітая (маўляў, федэрацыя дзвюх дзяржаваў), але ва ўсёй мемуарыстыцы аўтары шчыра пішуць пра страты Польшчы, пра польскі эміграцтаў, пра польскі супраціў, пра росквіт польскай культуры – маецца на ўвазе тэрыторыя Беларусі. У Заходняй Беларусі, якую аддалі Польшчы ў 1921 годзе, беларусам таксама не было месца, бо «крэсы» разгляdaліся як вернутыя землі Рэчы Паспалітай. Калі б не трагічны 1939 год, гэтая частка Беларусі была б ужо спаланізавана цалкам. А цяпер яна цалкам зрусіфікаваная. Можна сказаць: што ў лоб, што па лобе. І таму высновы з такога досведу могуць быць адны: трэба думаць, калі мы ўслаўляем тых, хто змагаўся супраць царызму, – чаго яны хацелі? Што ім тут бачылася: ці росквіт нашага краю, адукацыя нашага народа ў сваёй мове, ці падпарадкаванне польскай дзяржаве. Тое ж самае датычыць і змагарод супраць польскай улады. Калі хацелі далучэння да Расіі, то што магло з гэтага вынікаць для беларусаў, для беларускай дзяржаўнасці? Зноўку перспектыва культурнага, а значыць, этнічнага знікнення. Пераход у стан працоўных рэзерваў, як засведчыла гісторыя Расійскай імперыі, а потым Савецкага Саюза – Сібір, казахская цаліна, карэльскія лесанарыхтоўкі, засяленне былой Прусіі, БАМ. І дзе тыя нашыя людзі?

**Ілля ВЯРЭДЗІЧ**

# Вацлаў Гавел:
# *Мой сіндром вязня...*

Вацлаў Гавел, былы чэшскі прэзідэнт, даў газеце Lidove noviny эксклюзіўнае інтэрв'ю. Яно закранае многія важныя праблемы сучаснасці, і з гэтай прычыны ўяўляе цікавасць.

**LN: Што цяпер робяць былыя прэзідэнты?**

– Мы ў Чэхіі не маем традыцыі былых прэзідэнтаў, у нас прэзідэнты або паміралі яшчэ ў часе выканання сваёй функцыі, або сыходзілі з ганьбаю па вялікіх зменах у грамадстве. Адзін толькі Масарык сам пакінуў пасаду, калі ўжо быў невылечна хворы. Прэзідэнта, які б даслужыў і пасля нармальна існаваў, мы яшчэ не мелі. Таму – і калі пра гэта раней я не думаў – буду мусіць быць у гэтым першым ды зараз шукаць спосаб існавання былога прэзідэнта. У тым ліку і палітычнага існавання. Спачатку я ўяўляў, што як пенсіянер буду мець шмат часу на літаратурную працу, чытанне, разважанні ды вандроўкі, але гэта было проста ілюзіяй, маю зараз больш працы, чым у часы прэзідэнцтва. Я маю надта насычаны працоўны графік, шмат запрашэнняў, з якіх бальшыні мушу адмовіць – але некаторым адмовіць нельга. Веру, што да чэрвеня наступнага года мой стан стабілізуецца і што нейкую традыцыю былых прэзідэнтаў закладу.

**– Гэта мо як бы вярнуцца з турмы? Чалавек праходзіць «інкубацыйны перыяд», людзі навокал за ім назіраюць так, быццам ён яшчэ не прыйшоў у сябе...**

– Нейкае падабенства тут ёсць. Напрыклад, бальшыня вязняў, якія хутка па вызваленні вярнуліся назад у турму, вярнуліся таму, што не здолелі ўявіць велічыню свабоды. Пасля муштры, якую яны перажылі за кратамі, пасля прывязанага жыцця, яны ўявілі, што маюць неабмежаваную свабоду, не падумалі, што і жыццё вонку мае свае правілы. У нечым гэта падобна і на маю сённяшнюю сітуацыю – мае ўяўленні пра тое, якую буду мець свабоду, апынуліся нарэшце вялікаю ілюзіяй. Я і надалей мушу ў нейкіх справах выказвацца вельмі дыпламатычна, рознымі лаяльнасцямі, якія адчуваю, я больш звязаны чым бальшыня маіх суграмадзянаў.

**– Што вас найбольш цікавіць у палітыцы, чаму аддаяце больш часу?**

– Я гутарыў пра гэта з сябрамі і супрацоўнікамі ды вырашыў, што калі буду ў нечым грамадскім ангажавацца - а ангажавацца безумоўна буду, бо гэта выплывае з майго характару, і рабіў я гэта заўсёды, незалежна ад таго быў ці не быў прэзідэнтам – так буду выказвацца адносна важных рэчаў, не буду каментаваць нейкія дробязі, асабліва на чэшскай сцэне. Я таксама вызначыў, што сфера, якая мне падыходзіць і ў якой я на сваім месцы – гэта правы чалавека.

**– Такім чынам, ніякай чэшскай унутранай палітыкі?**

– Я маю адчуванне, што наша рэспубліка даволі паспяхова ў гэтым, яна становіцца сябрам Еўрапейскага Саюза. Сістэмныя змены нам не пагражаюць. І таму я хутчэй бы арыентаваўся на іншыя месцы, дзе ў людзей з гэтым горш.



**– Можа, на Кубу? А чаму менавіта на Кубу? Чаму не на Паўночную Карэю ці на В'етнам?**

– Я маю з Кубаю глыбейшую сувязь. Напрыклад, там выходзяць самвыдатам ці ўвозяцца туды ў перакладзе на іспанскую мае кнігі, усе там пра мяне ведаюць, і я шмат разоў меў магчымасць размаўляць з тамтэйшымі апазіцыйнымі дзеячамі.

**– Яны былі тут? Ці вы размаўлялі з імі па тэлефоне?**

– Некаторыя тут былі, напрыклад Санчэс і Асвальда Пая. З некаторымі, хто зараз на эміграцыі, я сустракаўся ў Фларыдзе. Але галоўная прычына маёй цікавасці Кубаю не ў асобных сувязях, але ў тым, што кубінскі рэжым ёсць найбліжэйшы нашай былой рэчаіснасці. Маем з ім найбольш паралеляў, а наближэнне тамтэйшага краху вельмі падобнае. Гэта азначае, што там вельмі прадуктыўна выкарыстоўваюць наш досвед а мы здольныя ім у шмат чым дапамагчы, напрыклад, папярэдзіць нейкія памылкі. Мы таксама ведаем, як важная салідарнасць з актыўнай апазіцыяй. Хай дысідэнты заслужылі павагу да сябе, яны мужныя і вартыя гонару, шмат год правялі за кратамі ды напісалі свае добрыя кнігі, але і праз гэта ў вачох практычных палітыкаў дэмакратычнага свету яны нясуць нейкае падазрэнне, з пункту погляду рэальнай палітыкі нельга на іх спадзявацца – сімвалічна дапамагчы можна, але яны не ёсць сапраўдным партнёрам. У нашым жа выпадку высветлілася, як добра, што нейкая структурызаваная апазіцыя існуе, хай яе намаганні і здаюцца донкіхотвам.

**– Чаму гэта добра?**

– Таму што калі ў нас разбураўся камунізм, то было каму ад імя грамадскасці весці перамовы з уладаю. Увесь той выбух меў перадгісторыю менавіта ў безнадзейным супраціве тых буркуноў. Нельга, каб дэмакратычная апазіцыя ў момант, калі сістэма пачне развальвацца, сказала: «Добра, мы свайго дасягнулі, а цяпер ідзем на піва». У Афганістане ці ў Іраку мы можам бачыць хаатычнае становішча, дзе ёсць вызвалены народ, але няма кіраўніка.

**– Вернемся на Кубу. Шмат хто з заходніх інтэлектуалаў у свой час былі апантаныя кубінскай рэвалюцыяй. Вы таксама захапляліся Чэ Геварам?**

– Не, я не захапляўся. У нейкім сэнсе псіхалагічна разумею той імпэт дзеля ахвярных рэвалюцыянераў ды эпатаж тых рухаў. Я нарэшце таксама «дзіця шасцідзесятых», у тыя часы я пачынаў адкрыта выступаць, пачалі ставіць мае п'есы, я ездзіў у замежжа, наведваў вялікія маніфестацыі на Захадзе, але як толькі пачаў адчуваць хай і найменшыя адзнакі фанатызму, асляплення ды фундаменталізму, то ўжо ведаў, што такія рухі ідуць няправільным шляхам. Чэ Гевара – фантастычны, варты павагі чалавек, але адначасова ён і нешчаслівец.

**- Вы былі калі-небудзь у Гаване?**

– Не. Але з Фідэлем Кастрам аднойчы сустракаўся – сядзеў з ім за сталом на ўрачыстым абедзе ў гонар гадавіны заснавання ААН у 1995 годзе. Мы амаль не размаўлялі, хіба толькі ён сказаў, што ў нас зараз не такое добрае піва, як было раней.

**– У Маскву вы таксама шмат не ездзілі...**

– Быў я там здаецца сем разоў з працоўнымі візітамі ды адзін раз з дзяржаўным візітам, усё гэта за часамі Ельцына. У асноўным вёў даволі важныя перамовы. Быў я тады першым некамуністычным прэзідэнтам з краіны савецкага блоку, а да таго ж і былым дысідэнтам, якога ўпершыню бачыў Гарбачоў. Спачатку на мяне глядзелі, як на нейкага экзатычнага звера, з недаверам. Гэта была такая халодная размова, калі чалавека мусіла апанаваць думка, ці не скруцяць яго, як Дубчака. Пасля патроху пачало ўсё высвятляцца, размаўлялі разам каля васьмі гадзін, а сёння мы ўжо добрыя сябры. Але тады было нялёгка высветліць, што мы не нейкія здраднікі, ворагі чалавецтва ці Савецкага Саюза. І пасля таксама не было лёгка высвятляць Ельцыну, што пашырэнне НАТО ім не будзе пагрозаю. Ельцын ужо быў два разы ў Празе, другі раз з афіцыйным дзяржаўным візітам.

**– Але гэта ўжо далёкая мінуўшчына.**

– Так, праўда, што я з Пуціным шмат кантактаў не меў, толькі аднойчы размаўляў з ім у Рыме. Ды і не было патрэбы. Дзяржаўныя візіты на вышэйшым узроўні маюць свой рытм і калі пройдуць, дык хутка іх не паўторыш. Таму застаюцца толькі працоўныя візіты, а яны маюць сэнс толькі калі для гэтага ёсць прычыны, тэма і двухбаковы інтарэс.

**– А што вы думаеце пра замежную палітыку Злучаных Штатаў?**

– Я з'яўляюся адносна вялікім крытыкам сучаснага шалёнага цывілізацыйнага развіцця, якое яшчэ называецца глабалізацыяй і ў якім вялікую ролю іграюць транснацыянальныя карпарацыі. Але праз тое, што завуцца яны транснацыянальнымі, бальшыня людзей зводзіць усё гэта на Амерыку. Гэта не амерыканскія карпарацыі - гэта транснацыянальныя карпарацыі. Хто ведае, каму што належыць? Можна ж дапусціць, а нарэшце гэта праўда, што падземка ў Лондане належыць саудаўскааравійскай каралеўскай сям'і.

**– Чаму так адбываецца?**

– Вечная дылема амерыканскай палітыкі – дакуль распаўсюджваецца адказнасць за свет і дзе пачынаецца пыха моцы. Гэта вялікая праблема, якой я ў Амерыцы прысвяціў некалькі прамоваў. Выйшла ў Чэхіі і добрая кніга «Пыха моцы» сенатара Фулбрайта, якая пра гэта распавядае. Распавядае і пра тое, што амерыканцаў зачаста ненавідзяць там, дзе яны найбольш дапамаглі: нянавісцю таго, хто мусіць за нешта аддзячыць, да таго, каму за тое павінен аддзячыць.

**– Пераянесемся ў сучаснасць: два тыдні таму сенатар Джон МакКейн, які з'яўляецца адным з 15 найуплывовейшых амерыканцаў, абвесціў, што Буш не павінен запрашаць Пуціна на саміт G8 і скрытыкаваў дзеянні расейскіх органаў супраць Хадаркоўскага ды фірмы ЮКАС. Літаральна ён сказаў, што такія метады «ставяць пад пагрозу расейска-амерыканскія адносіны і могуць выклікаць новую эру халоднага міру». Як бачыце сённяшнюю Расію вы?**

– Будучь там яшчэ доўга складанасці. Мы ад пачатку разумелі, што Расія не стане з дня на дзень дэмакратычнай дзяржаваю, як, напрыклад, Канада, і што адносіны між Амерыкай і Расіяй не будуць такімі, як між Амерыкай і Канадай. Гэта патрабуе змен некалькіх генерацыяў. У Расіі ўсё нашмат складаней, чым у нас. Улада Пуціна асвечана аўтарытарызмам, ён шмат бярэ ад Пятра І. Дзесьці гэта адпаведныя крокі, а дзесьці ад такога падыходу бягуць мурашкі па целе.

Расія – гэта агромністая еўраазіяцкая імперыя з іншай гісторыяй, іншай культураю, іншай рэлігіяй ды іншымі норавамі. Нельга ўзвышаць сябе над ёю ды лічыць яе менш каштоўнай чым мы. Яна проста іншая, і трэба з гэтым змірыцца. Лёгка гэта не будзе, і калі размаўляю з прыяцелямі, якія таксама былі дысідэнтамі, як, напрыклад, Сяргей Кавалёў ці Алена Бонар, нават і з Яўлінскім, я бачу, што яны вельмі занепакоены. З другога боку, трэба ўсвядоміць, што Расія перад прэзідэнцкімі выбарамі, становішча там вельмі напружанае.

**– Вы лічыце сваёй «постпрэзідэнцкай» тэмаю правы чалавека. Чаму тады болей не выказваецеся адносна падзеяў у постсавецкіх краінах, такіх, як Беларусь, Грузія ці Азербайджан? Там грамадзянскія правы, напрыклад, падчас выбараў, масава парушаюцца, а голас Вацлава Гавела меў бы, прынамсі для тамтэйшай апазіцыі, вялікае значэнне.**

– У беларускіх рэчах я ангажуюся, не так даўно атрымаў ганаровую прэмію, перадаў частку галоўнаму рэдактару тыднёвіку «Наша Ніва». Яшчэ ў часы прэзідэнцтва я прыняў прадстаўнікоў беларускай апазіцыі на Градзе. У лютым еду на Украіну, дзе планую канферэнцыю, якая мусіць папярэднічаць дыялогу між апазіцыяй і прэзідэнтам Кучмам. Я маю інтарэс да лёсу пані Су, якую я намінаваў на Нобелеўскую прэмію і яна яе атрымала, займаюся будучыняй Тыбета, адносінамі свету да Тайваня ды іншымі тэмамі. Але ўсё паспець нельга, я не маю ні ўнутранай, ні знешней моцы, каб ахапіць цэлы свет.

**– Зараз мы ўзгадваем чатырнаццатую гадавіну 17-га лістапада, такім чынам, наша свабодная супольнасць вырасла да юнацкага ўзросту. Якія змены вы адчуваеце?**

– З кожным наступным годам я рады, бо з'яўляюцца новыя генерацыі маладых людзей, якія ўжо выраслі ў свабодзе, і яны так ці інакш не здэфармаваны папярэднім ладам, як мы старэйшыя. Як вырастуць ужо іх дзеці, якія не возьмуць у спадчыну нават хатніх ды сямейных дэфармацыі свайкоў, то будзе яшчэ лепей.

**– Ці не прыкра вам, што прыход свабоды не змяніў усё ў момант?**

– Мы мелі ілюзіі, што ўсё пойдзе хутчэй. Яно так здалося: сістэма развальвалася як домік з картаў, знікла Народная міліцыя, адным рухам пяра была зрушана Дзяржаўная бяспека... Здалося, што ўсё пойдзе неймаверна хутка. Але гэта не так: на кожным кроку чалавек сутыкаўся з бюракратыяй, са стэрэатыпамі ў паводзінах, з тымі самымі людзьмі, толькі што ўжо ў дэмакратычнай абалонцы.

**- Ці апаноўвае вас роспач з таго?**

– Я лічу, што гэта ў ніякім выпадку не адкрыццё, якое мусіць пазбавіць чалавека абавязкаў імкнуцца змяніць свет да лепшага.

**Пераклаў Ілля ГЛЫБОЎСКІ**

## Галадуюць 842 мільёны

Харчовая камісія ААН апублікавала даклад «Праблемы харчовай бяспекі ў свеце ў 2003 годзе». Згодна з дадзенымі, колькасць людзей, якія галадуюць, зноў пачала ўзрастаць і толькі за апошнія пяць год павялічылася на 18 мільёнаў чалавек.

Па дадзеных Харчовай камісіі, зараз у свеце галадуюць 842 мільёны чалавек, з якіх толькі 10 мільёнаў жывуць у прамыслова развітых краінах, 34 мільёны – у краінах, якія здзяйсняюць пераход да рынку, а большыня – амаль 800 мільёнаў чалавек – у краінах, якія развіваюцца. Хранічны голад ёсць прычынай цяжкіх хваробаў і з'яўляецца адной з галоўных прычын высокай смяротнасці ў свеце.

Змяншэнне колькасці галодных удвая, запланаванае ААН да 2015 года, аўтары даклада лічаць практычна немагчымым – бо для дасягнення гэтай мэты трэба штогод скарачаць колькасць пакутнікаў ад голаду сама менш на 26 мільёнаў чалавек, гэта значыць у 12 разоў хутчэй, чым гэта адбывалася ў 1990-х гадах.

На думку экспертаў, харчовых прадуктаў у свеце выпрабляецца дастаткова, каб накарміць усіх жыхароў планеты. Праблема ж заключаецца галоўным чынам у адсутнасці ў бедных краінах палітычнай волі. Акрамя таго, эканамічна развітыя краіны павінны прадаставіць фінансавыя сродкі для рэалізацыі праграмы па барацьбе з голадам.

## Суддзя заступіўся за палонных

Прадстаўнік Палаты лордаў брытанскага парламента і адзін з суддзяў брытанскага Апеляцыйнага суда лорд Стэйн абвінавацію адміністрацыю ЗША ў «жахлівым» парушэнні законаў у адносінах да палонных, якія знаходзяцца на амерыканскай ваеннай базе Гуантанама на Кубе. Па словах лорда, вязні з гэтай базы абсалютна пазбаўлены правоў і ўсялякай юрыдычнай абароны. Праваахоўныя арганізацыі неаднойчы выступалі ў абарону палонных, вінавацячы ЗША ў парушэнні міжнародных канвенцый. Шэраг краінаў выказвалі пярэчанні адносна ўмоваў утрымання зняволеных і выкарыстання ваенных трыбуналаў для суда над імі. Аднак амерыканская адміністрацыя называе вязняў з Гуантанама баевікамі, адмаўляецца лічыць іх ваеннапалоннымі і не выключае магчымасці прымянення ў адносінах да іх смяротнага пакарання.

На базе Гуантанама ўтрымліваюцца 600 чалавек з 42 краінаў, якія падазраюцца ў прыналежнасці да дзейнасці тэрарыстычнай арганізацыі «Аль-Каеды» і руху «Талібан». Зняволеным не

## Грузія пачынае выбіраць



Абстаноўка ў Тбілісі супакойваецца. Шэварднадзэ прызнаў, што парламенцкія выбары былі фальсіфікаваныя, але катэгарычна адмовіў сваю вінаватасць, параўнаўшы сябе з камп`ютэрам, які не можа адказваць за працу аператара. У парламенце абвешчана, што факты фальсіфікацыі на выбарах, якія праходзілі 2 лістапада, будуць расследавацца ў рамках узбуджанай крымінальнай справы. Гронка вышэйшых чыноў ранейшага ўрада падала ў адстаўку.

Адразу набірае абароты і палітычнае жыццё краіны. Галоўная інтрыга, зразумела, звязаная з апусцелай прэзідэнцкай пасадай. Пазачарговыя выбары прэзідэнта прызначаны на 4 студзеня 2004 года. Аднак на выстаўленне кандыдатаў было ўсяго два дні, таму прэтэндаваць могуць толькі знаёмыя ўсім асобы. Адзіным кандыдатам ад апазіцыйных партый «Нацыянальны рух» і «Бурджанадзэ – дэмакраты» вылучаны Міхаіл Саакашвілі, які найбольш паказаў сябе ў часе «аксамітнай рэвалюцыі».

Злучаныя Штаты Амерыкі выказалі жаданне дапамагчы Грузіі на прэзідэнцкіх выбарах. Для гэтага ў краіну прыедзе спецыяльная амерыканская дэлегацыя, якая абмяркуе з часовым урадам усе крытычна важныя пытанні.

Пакуль у сталіцы краіны рыхтуюцца да выбараў прэзідэнта, Абхазія, Аджарыя і Паўднёвая Асецыя думаюць пра ўзмацненне сваіх аўтаномных правоў. Лідэры гэтых трох аўтаноміяў могуць падпісаць пагадненне аб узаемных адносінах, што паспрыяе іх большай самастойнасці перад цэнтральнай уладай Грузіі.

## Тузлу можа паглынуць мора

Украінскія эколагі б'юць трывогу: Тузлу пачынае змываць у мора. Востраў шырынёй у 500 метраў і даўжынёй у 6,5 кіламетраў губляе за 10 дзён па 50 кв. метраў. Галоўны дарадца ўкраінскага МЗС Леанід Асавалюк сцвярджае, што плынь у Керчанскім праліве ўзмацнілася і знішчае Тузлу – «гэта вынік змяншэння прамежка паміж Расіяй і востравам». Па яго словах, Тузла штодзённа будзе памяншацца на 5 метраў. А значыць, гэты памежны пост Украіны, які дазваляе ёй браць плату за праход караблёў цераз Керч-Енікальскі канал, можа быць знішчаны «натуральным», а не палітычным шляхам. Можа на гэта і разлічвалі будаўнікі дамбы. Востраў знікне – а мора адказнасці не нясе.

Украінскія сацыёлагі правялі даследаванне, згодна з якім, прыкладна палова ўкраінцаў занепакоена «тузлаўскімі падзеямі»: 42% не задаволены ўкраінскай пазіцыяй, лічачы яе «занадта мяккай», 35% настойваюць на ўзброенай абароне Тузлы.

Па дадзеных расійскага Фонду «Грамадскае меркаванне», амаль палова з 1.500 апытаных расіянаў (46%) перакананая, што ў спрэчцы аб дамбе ў Керчанскім праліве праўда на расійскім баку, і толькі 2% мяркуюць, што права Украіна. На думку 44% расіянаў, Расія ў гэтай спрэчцы павінна «цвёрда стаяць на сваім».

Расійскае аддзяленне прыродаахоўнай арганізацыі «Грынпіс» крытыкуе будаўніцтва дамбы ў Керчанскім праліве, паколькі Расія нанесла шкоду экалогіі рэгіёна. Звужэнне праліва з-за дамбы патэнцыйна прыводзіць да размывання Тузлы і патрабуе ад украінцаў фінансавання для будаўнічых работ па ўмацаванні вострава.



# Даўнія падставы грузінскіх зменаў

Шэварднадзэ даехаў да канечнага прыпынку ў сваёй няпростай кар'еры. Калі ў 1992 годзе ён вярнуўся ў Тбілісі, то стаў кіраўніком краіны, разламанай на тры часткі ў выніку грамадзянскай вайны, краіны, якая атрымала незалежнасць, але над межамі якой навісала некантралюемая Расія.



Абхазія ніколі не пачала б аддзяленне (якое яна з поспехам закончыла), калі б ёй не дапамагалі, не падштурхоўвалі расійскія ваенныя, якія дзейнічалі незалежна і супраць волі Крамля, дзе сядзеў Барыс Ельцын. Шэварднадзэ не ўдалося здзейсніць свае намеры, бо ён не атрымаў падтрымкі ад Масквы. Ва ўмовах гэтай адчужанасці актыўна дзейнічалі сілы (галоўным чынам з ваенных колаў), якія імкнуліся паступова аднавіць гэты ўчастак Савецкага Саюза нават коштам падзелу краіны на дробныя феоды. Што і адбылося.

У Шэварднадзе не было іншага выбару, як звярнуць увагу на сапраўдных «спонсараў» развалу СССР – Злучаныя Штаты. У Вашынгтоне ён знайшоў уважлівых слухачоў. Там ужо распрацоўвалі новую еўраазіяцкую палітыку, асабліва ўлічваючы патокі нафты Каспійскага мора, якія праглядваліся ў перспектыве. Як даставіць гэтыя мільярды барэляў нафты заходнім спажыўцам? Як зрабіць так, каб новая Расія не наклала на іх сваю руку, не стала наноў граць стратэгічную ролю ў рэгіёне?

У 1994 годзе Ельцын развязаў вайну ў Чачні. Лепшую магчымасць цяжка было прыдумаць. Пакуль ідзе вайна ў Чачні, усе ідэі аб пракладцы на Паўночным Каўказе новых нафтаправодаў ці аб развіцці існуючых застаюцца нерэальнымі. І адначасна трэба было распрацоўваць новыя нафтавыя праекты, што было таксама выгадна са стратэгічнага пункту гледзішча.

Грузія станавілася адным з безальтэрнатыўных шляхоў для нафтаправоду. У 1999 годзе, у апошні год уладарання, Ельцыну давялося ў поўнай меры зведаць абразу і нават кпіны, калі ён быў вымушаны бяссільна паглядаць на радаснага Клінтана, які падпісаў з турэцкім лідэрам пагадненне аб будаўніцтве нафтаправода, які ад Баку павінен быў дайсці да Сейхана, на беразе Міжземнага мора, праз Грузію. Гэтым тлумачыцца і паток даляраў, які Вашынгтон ціха, але паслядоўна выдзяляў на падтрымку Шэварднадзэ. Аднак Клінтан, а пасля Буш маглі толькі падтрымліваць пяцімільённую краіну, але не маглі прымусіць яе расці, аздаравіць яе эканоміку. Нават уступленне ў НАТО, якое фактычна ўжо адбылося, не выратавала б сітуацыю. Шэварднадзэ неаднойчы дамагаўся гэтага дабіцца, хоць бы фармальна, аднак яго заклікі не былі пачутыя. Уступленне ў НАТО Грузіі выклікала б пратэсты ў Крамлі, а ў той час ніхто не хацеў распаляць новыя канфлікты. Гэтак Шэварднадзэ апынуўся на сярэдзіне броду. Летась справа ледзь не дайшла ваеннага сутыкненння з Расіяй з-за існавання калідора, які Грузія трымала адкрытым у тыле чачэнскіх баевікоў у Панкіскай цясніне. Два гады таму Злучаныя Штаты, у самы напал афганскай вайны, накіравалі на тэрыторыю Грузіі свой першы ваенны кантынгент. Афіцыйна – для навучання грузінскай арміі і паліцыі і для таго, каб дапамагчы ім кантраляваць горныя сцежкі, па якіх ходзяць антырасійскія ісламскія баевікі. Неафіцыйна – для падтрымкі прэзідэнта, пад якім хісталася крэсла.

Уладзімір Пуцін чакаў, стрымліваючы раздражнёнасць у сваіх спецслужбах, пакуль плод выспее. Парадаксальна, але ў апошні час у захаванні пры ўладзе Шэварднадзэ, па меншай меры на нейкі час, быў найбольш зацікаўлены Крэмль. З Міхаілам Саакашвілі ўзнаўленне вайны паміж Грузіяй і Абхазіяй будзе пытаннем некалькіх тыдняў. Маскве прыйдзецца адкрыць свае карты і выбраць, з кім ёй быць, што ў дадзены момант вельмі нязручна.

Другая вайна на Каўказе сур'ёзна парушыць раўнавагу ў рэгіёне. У небяспецы будзе і нафтаправод Баку–Сейхан. Вашынгтон і Масква вывучаюць адзін аднаго здалёк, аднак знаходзяцца ў шчыльным кантакце. Расійскія войскі стаяць на мяжы паміж Грузіяй і Абхазіяй, амерыканскія марскія пехацінцы размешчаныя ад іх недалёка.

**La Stampa**



# Шпіёнскія ганарары

*Знакамітыя 30 срэбранікаў у наш час канвертуюцца ў мільёны «баксаў»*

Шпіянаж – гэта дабыванне ці крадзеж сакрэтнай інфармацыі, якія, як правіла, добра аплачваюцца. Але зацверджанай тарыфнай сеткі ў гэтым сектары рынку не існуе. Пры складанні каштарысу ўлічваюцца прафесійная кваліфікацыя шпіёна, характар патрэбнай інфармацыі і неабходныя выдаткі (на пражыванне, набыццё неабходнай тэхнікі і г. д.). Памер ганарару залежыць і ад апетыту самога шпіёна. Прыкладам, ваенны аташэ СССР у Лісабоне палкоўнік ГРУ Генадзь Смятанін запрасіў у ЦРУ за свае паслугі мільён даляраў, за што атрымаў ад вярбоўшчыкаў аператыўны псеўданім «Мільён».

Не самая багатая ў свеце савецкая разведка зрабіла мільянерамі Олдрыча Эймса і Роберта Хансена. Завербаваны ў 1984 годзе начальнік «савецкага» аддзела ўпраўлення знешняй контрразведкі ЦРУ Олдрыч Эймс даў звесткі аб 45 аперацыях, якія правялі амерыканскія спецслужбы. Спіс раскрытых ім агентаў ЦРУ, большасць з якіх з'яўлялася супрацоўнікамі савецкіх спецслужбаў, змяшчаў болей за 20 прозвішчаў. Прыкладам, генерала ГРУ Дзмітрыя Палякова, ён жа «Бурбон» і «Цыліндр», які працаваў на замежную разведку чвэрць стагоддзя. Пасля арышту Эймса, які правяла амерыканская контрразведка ў лютым 1994 года, на яго банкаўскім рахунку было знойдзена паўтара мільёна даляраў.

Праз сем гадоў, у лютым 2001 года, супрацоўнікі ФБР арыштавалі работніка цэнтральнага апарата свайго ведамства Роберта Хансена. Па звестках следства, ён прапанаваў свае паслугі КГБ у 1985 годзе і за 15 гадоў супрацоўніцтва атрымаў у якасці ўзнагароджання каля 2 мільёнаў даляраў. На рахунках Хансена ў швейцарскіх банках было знойдзена 1,4 мільёна даляраў, апроч гэтага ён атрымаў ганарары ў выглядзе каштоўнасцяў.

Паказальная і сума разлікаў, якія правёў адстаўны палкоўнік ГРУ Аляксандр Волкаў са сваімі калегамі з Цэнтра касмічнай разведкі падпалкоўнікам Уладзімірам Ткачэнкам і падпалкоўнікам Генадзем Спорышавым. Волкаў быў арыштаваны ў момант перадачы партыі здымкаў тэрыторыі Сірыі афіцыйнаму прадстаўніку «Масад» у Маскве Рувею Дынелю. Дынель набыў у Волкава 172 слайды, за якія аддаў былому палкоўніку ГРУ болей за 350 тысяч даляраў. Волкаў выдзяліў кампаньёнам наступныя сумы: Спорышаву даў 1.600 даляраў, Ткачэнку – 36.000 даляраў. Сабе ён пакінуў 345 тысяч даляраў, якія схаваў у тайніку ў сябе дома.

Для шпіёна мае вялізнае значэнне спосаб атрымання ганарара. Часта дзеля гэтага выкарыстоўваецца тайнік. Вельмі важна, каб тайнік не кідаўся ў вочы сваімі памерамі. Таму ў тых выпадках, калі для канспіратыўнай перадачы прызначана сума, якая перавышае некалькі тысяч умоўных адзінак, якія пры неабходнасці можна, скарыстаўшы спецыяльную тэхніку, «запакаваць» у скрутачак таўшчынёй з аловак, часта выбіраюць каштоўныя камяні адпаведнага кошту. А паколькі кліент не можа даць рэшты з вялікай сумы ў такім выглядзе, ювелірам спецслужбы прыходзіцца рэзаць буйны брыльянт, пакідаючы пэўную частку яго да наступнага выпадку. Лічыцца, што такі падыход да вырашэння праблемы павінен падштурхоўваць агента на новыя подзвігі дзеля атрымання астатніх частак каштоўнага каменя.

Разведкі выдатна разумеюць, што прыродны алмаз, рубін, сапфір ці александрыт у прыродным выглядзе збыць цяжка, калі не маеш уласнага ювеліра, якому давяраеш на 300%. Каб выключыць рызыку праваду канфідэнцыйнай крыніцы, спецслужбы звычайна перадаюць каштоўнасці ў апрацаваным выглядзе. Пры гэтым прымаюцца адпаведныя меры перасцярогі ў выглядзе афармлення ювелірнага ўпрыгожання пад работу еўрапейскіх майстроў пэўнага перыяду, што дазваляе даць праўдападобнае тлумачэнне наяўнасці гэтай каштоўнасці ў пэўнай асобы. Лічыцца, што «бабуліна спадчына», атрыманая ў свой час ад галандскага жаніха ці швейцарскай кузіны, апроч зайздрасці, падазрэнняў не выклікае.

## Навіны



Манеты блізкай ужо алімпіяды ў Афінах афіцыйна прэзентавалі ў Берліне.



З такіх «тачанак», запрэжаных асламі іракскія партызаны вялі абстрэл аб'ектаў кааліцыі ў Багдадзе.

## Шон Конэры стане Кірам Вялікім

Брытанская прадзюсерская кампанія Chayaha мае намер прыступіць да здымкаў грандыёзнага гістарычнага фільма, галоўным героем якога павінен стаць Кір Вялікі, стваральнік імперыі Ахменідаў. Мяркуюць, што роля Кіра дастанецца Шону Конэры, роля яго царыцы – Анджаліне Джолі. Рэкордны для англійскай кінаіндустрыі бюджэт у 50 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў забяспечваецца прыватнымі інвестарамі. Іх імёны не называюцца, але сярод іх, як мяркуюць, – султан Брунея, адзін з самых багатых людзей на свеце.

Кір Вялікі (580–529 да н.э) – адзін з самых прывабных персанажаў гісторыі Блізкага Усходу. Ён быў стваральнікам імперыі, але праслаўлены не як заваёўнік, а як мудры і верацярпімы ўладар. Ён скасаваў у сваёй імперыі асабістае рабства, дазволіў габрэям вярнуцца з вавілонскага палону ў Ізраіль, патрабаваў ад сваіх намеснікаў–сатрапаў, каб тыя ставіліся да падданых, як да родных дзяцей. Клінапісныя таблічкі з яго ўказамі, у якіх ён гаворыць аб правах насельнікаў імперыі, лічацца першай дэкларацыяй грамадзянскіх правоў у свеце.

Фільм будуць здымаць у Тунісе ці Пакістане ў наступным годзе. На ролю рэжысёра запланаваны 32-гадовы англічанін Аляксандр Джові, які зняў пакуль што адзін поўнаметражны фільм – «музычны» трылер аб начных клубах.

## Чалавек у небе

Лістапад 1783 года быў адзначаны безумоўна рэвалюцыйнай падзеяй – першым свабодным палётам чалавека на паветраным шары. Піянеры паветраплавання – хімік Жан Франсуа Пілатр дэ Роз'е і ягоны сябра маркіз Франсуа Ларэн д'Арланд – луналі над Парыжам, дасягнуўшы вышыні 1.500 метраў і за 25 хвілін адолелі адлегласць ў 12 кіламетраў. Кароль Францыі Людовік XVI, які непакоіўся за бяспеку адважных авіятараў, прапанаваў адправіць у першы палёт крымінальнікаў, асуджаных на вечную катаргу, абяцаючы ім за ўдзел у такім рызыкоўным прадпрыемстве амністыю. Аднак браты Мангольф'е пераканалі караля, што нельга аддаваць пальму першынства і званне першаадкрывальнікаў катаржнікам. Гэтак шчасце ўслізнула ад злачынцаў, якія маглі атрымаць і волю, і прапіску ў гісторыі.

## Беражыце зубы

Яшчэ адно пацверджанне, што мысленне і памяць напрасткі звязаныя з жавальнымі рухамі, было прадстаўлена на Міжнародным кангрэсе герантолагаў Азіі і Акеяніі ў Токіо. Японскія вучоныя з універсітэта Тохіку высветлілі сувязь паміж колькасцю зубоў і працай гіпакампа – участка скроневых доляў мозгу, які адказвае за хуткатэрміновую памяць і апрацоўку інфармацыі. Вынікі даследавання мозгу, праведзеныя болей чым у тысячы людзей сталага ўзросту, паказалі, што чым меней засталося зубоў, тым меней аб'ём гіпакампа. У 55 пацыентаў, якія мелі прыкметы прыдуркаватасці, захавалася ў сярэднім па 10 зубоў, а тыя, у каго мазгавая дзейнасць была ў норме, мелі па 14–15 зубоў.

Гэты вынік не з'яўляецца нечаканасцю. Даўно вядома, што жавальныя рухі здымаюць стрэс, стымулююць мысленне і паляпшаюць памяць, але адносна механізму такога ўплыву існавалі толькі меркаванні.

Некалькі гадоў таму вывучэнне сувязі паміж жаваннем і памяццю праводзілася на лабараторных мышах, якім выдалялі зубы. Група вучоных высветліла, што ў выніку гэтага памяць у мышэй істотна пагаршаецца. Затым вучоныя прыступілі да доследаў на людзях. Сканаванне мозгу засведчыла, што пры жавальных рухах рэзка ўзрастае інтэнсіўнасць нейрасігналаў у гіпакампе.

Але большыня вучоных дасюль прытрымліваецца скептычнай пазіцыі, гаворачы, што «пасля гэтага – не азначае ў выніку гэтага». Такія простыя сувязі для чалавека немагчымыя, бо бяспека памяці арганізавана больш грунтоўна.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2139
Падпісана да друку 28.11.2003 (12.00)
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11